# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень
27 каналаў ад "Рэгіянальнай газеты"

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

18 сакавіка 2016 года №12 (**1090**)


**Адна зямля**




# "Памылкова думаць, што замест старых дрэў акуратна вырастуць новыя"



**Прайшло абмеркаванне лёсу старых дрэў у Вілейцы**

старонка 3



## Калі ў цябе сур'ёзныя намеры – падары сваёй каханай падпіску на "Рэгіянальную газету"

**Падпісацца на "РГ" можна на пошце па ўсім рэгіёне.**

**Падпісны індэкс:**

63212 (індывід. падпіска),
632122 (ведамасная падпіска)

ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета", УНН 600288444



## Прынялі рашэнне аб будаўніцтве свінакомплексу каля вёскі Соўлава

старонка 2

## Машын якіх марак больш у Астравецкім, Ашмянскім і Смаргонскім раёнах?

старонка 4





# Маладзечанскі райвыканкам прыняў рашэнне аб дазволе будаўніцтва свінакомплексу ў раёне вёскі Соўлава

ВАЛОЖЫН

**Пра гэта “Рэгіянальнай газеце” паведамілі ў Маладзечанскім райвыканкаме.**

Рашэнне прымала камісія.

У афіцыйнай інфармацыі гаворыцца:

“Разгледзеўшы зварот таварыства з абмежаванай адказнасцю “Вялес-Міт” і прыкладзеныя дакументы:

– копію акта выбару да матэрыялаў папярэдняга ўзгаднення ТАА “Вялес-Міт” месца размяшчэння зямельных участкаў для будаўніцтва свінагадоўчага комплексу на 100 тысяч галоў свіней у год у раёне вёскі Соўлава, пад’язных дарог да яго, артэзіянскіх свідравін, інжынерных сетак на землях землекарыстальнікаў Маладзечанскага раёна Мінскай вобласці;

– копію заключэння №12 дзяржаўнай экалагічнай экспертызы Міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь па архітэктурным праекце “Будаўніцтва свінагадоўчага комплексу на 100 тысяч галоў у год і пад’язных дарог да яго ў раёне вёскі Соўлава Маладзечанскага раёна”, зацверджанага першым намеснікам міністра прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Рэспублікі Беларусь 12 лютага 2016 года;

– копію заключэння дзяржаўнай экспертызы (станоўчага) ад 18 лютага 2016 года №808-17/15 па вышэйзгаданым праекце, выдадзенага РУП “Галоўдзяржбудэкспертыза”, на падставе Указа Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 1 чэрвеня 2015 г. №220 “Аб дзейнасці таварыства з абмежаванай адказнасцю “Вялес-Міт “, адміністрацыйнай працэдуры 3.1 адзінага пераліку адміністрацыйных працэдур, што ажыццяўляюцца дзяржаўнымі органамі і іншымі арганізацыямі ў адносінах да юрыдычных асоб і індывідуальных прадпрымальнікаў, зацверджанага пастановай Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ад 17 лютага 2012 г. №156,

**Маладзечанскі раённы выканаўчы камітэт прыняў рашэнне ад 9 сакавіка 2016 г. №173 “Аб дазволе будаўніцтва аб’екта”,**

згодна з якім таварыству з абмежаванай адказнасцю “Вялес-Міт” дазволена будаўніцтва аб’екта па праекце “Будаўніцтва свінагадоўчага комплексу на 100 тысяч галоў у год і пад’язных дарог да яго ў раёне вёскі Соўлава Маладзечанскага раёна”.

У Маладзечанскім райвыканкаме падкрэслілі, што рашэнне канчатковае. І пытанне застаецца толькі ў тым, каб вызначыцца з датай пачатку будаўніцтва.

У аддзеле архітэктуры пакуль на гэтае пытанне не адказалі.

Пакуль не ўдалося пагаварыць са спецыялістам і ў Валожынскім райвыканкаме, што будзе з грамадскімі абмеркаваннямі, якія планавалася праводзіць да 26 сакавіка. У наступным нумары “Рэгіянальнай газеты” мы пастараемся адказаць на гэтыя пытанні.

**Аддзел інфармацыі.**

## Бібліятэка зноў запрашае на “Розум-шоу”

МАЛАДЗЕЧНА

Трэцяя інтэлектуальная гульня “Розум-шоу” адбудзецца ў Маладзечне 26 сакавіка.

Адмыслова дзеля гульні з Мінска прыедзе ўладальнік Хрустальнай савы **Павел Свярдлоў**. Па-ранейшаму ён – вядучы гульні.


Фота nutcall.com.

Павел Свярдлоў.

Як паведаміла загадчыца аддзела абслугоўвання цэнтральнай раённай бібліятэкі **Таццяна Закрэўская**, пачатак гульні а 15 гадзіне.

Удзел бясплатны. Але ахвотных просяць загадзя зарэгістравацца па тэлефонах **(80176) 76-06-56, (8033) 669-12-18.**

Мерапрыемства ладзіць цэнтральная раённая бібліятэка. Яно пройдзе ў канферэнц-зале бібліятэкі сямейнага чытання “Верасок”.

**Аддзел інфармацыі.**


Фота забяспечанае Таццянай МАЙСАК.

Падчас практычных заняткаў.

# Роля таты ў сям’і, дзе выхоўваецца дзіця-інвалід, – важная

ВІЛЕЙКА

**Гэтак лічыць Дзмітры Цімашкоў, адзін з удзельнікаў міжнароднага праекта з удзелам татаў, якія выхоўваюць дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі.**

Праект нядаўна завяршыўся ў дзіцячым цэнтры “Надзея” на Вілейшчыне.

Звычайна, асноўная ўвага накіраваная на праблемы дзяцей з інваліднасцю, у меншай ступені разглядаюцца праблемы іх мам. Што ж тычыцца татаў, то іх уласныя патрэбы і роля ў развіцці дзяцей актыўна не разглядаюцца і не вывучаюцца. Дапамагчы змяніць сітуацыю быў прызначаны праект “Узаемадзеянне некамерцыйных і дзяржаўных структур у павышэнні ролі татаў у выхаванні дзяцей з абмежаванымі магчымасцямі”.

– Кожны тата прыязджаў да нас са сваім дзіцем. І тое, што яны прыехалі адны, без жонкі, на вялікія адлегласці – пакінуўшы дома іншых дзетак, працу, варта павагі, – кажа вядучы спецыяліст па сувязях з грамадскасцю цэнтра “Надзея” **Таццяна Майсак**. І тлумачыць: “З’ехаць адным з дома з дзіцем – гэта для іх складана, бо дома лягчэй, жонка дапаможа”.

У цэнтры праводзілі семінары, на якіх вывучалі досвед працы з татамі ў Германіі. Адбываліся трэнінгі, на якіх сярод іншага прапаноўвалі формы сумесных заняткаў татаў з дзецьмі. Удзельнікі працавалі з псіхолагам і нават гулялі ў спецыяльныя гульні.

– Ва ўдзельнікаў праекта засталіся толькі станоўчыя водгукі. Такі выезд для іх цікавы, яны прыязджаюць у пазітыўным настроі, – дадае Таццяна Майсак. – Напрыклад, адна мама кандытар. Яна штораз пякла і перадавала вялікі торт, каб таты маглі сабрацца ўсе разам, пасядзець за чаем. На гэты раз торт зрабіла ў лясной тэме: упрыгожыла фігуркамі звяроў, божых каровак.

### “Тэма выклікае цікавасць у татаў”

Удзельнікі праекта прыехалі са Слуцка, Капыля, Мінска і іншых гарадоў Беларусі.

Ужо згаданы Дзмітры Цімашкоў са сталіцы – заснавальнік сацыяльна-дабрачыннай установы “Каманда “Крылы анёлаў”. Удзельнічае ў забегах на доўгія дыстанцыі, прытым разам з дачкой Ліляй. Яна – у спецыяльнай калясцы, якую Дзмітры штурхае перад сабой. Таксама разам яны на велапрабежках, у падарожжах. Выкарыстоўваюць для гэтага розныя прыстасаванні: напрыклад, велапрычэп для катання дзяцей з цяжкай інваліднасцю.

– Праект вельмі патрэбны. Таму што тэма зусім не распрацаваная, – перакананы Дзмітры. – Ніхто дагэтуль не гаварыў, што ў таты павінна быць вельмі важная роля ў сям’і, дзе выхоўваецца дзіця з інваліднасцю. Традыцыйна лічыцца, што гэта роля ў асноўным толькі мамы. Хаця сітуацыя бывае настолькі цяжкая, што догляд за дзіцем – сапраўдная мужчынская праца. І тое, што пра гэта пачалі гаварыць у праекце, вельмі добра.

Наколькі праект паспяховы, казаць яшчэ вельмі складана, лічыць Дзмітры:

– Бо параўнаць няма з чым, такога яшчэ не было. Але калі праект пачынаўся, то ў “Надзею” год таму прыехала пяць татаў. Па меры развіцця праекта колькасць вырасла да 15. Гэта кажа пра тое, што тэма выклікае цікавасць у татаў, яны здольныя ўва ўсё ўключацца. І вельмі радуе. Калі працягваць праектам займацца, карысць будзе вялікая.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка “РГ”.** Праект рэалізоўваўся з 2014 года дзіцячым рэабілітацыйна-аздараўленчым цэнтрам “Надзея” ў партнёрстве з грамадскім аб’яднаннем “Сацыяльная Служба Евангелісцкіх мужчын (горад Швертэ, Германія) і грамадскай арганізацыяй “Адкрыццё” (“Откровение”) з Мінска пры садзейнічанні Праграмы падтрымкі Беларусі Федэральнага ўрада Германіі.

## Гукаць вясну ў Вязынцы будуць 20 сакавіка

МАЛАДЗЕЧНА

“Студэнцкае этнаграфічнае таварыства” і Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрашаюць пагукаць вясну разам.

У праграме – гукальныя песні, веснавыя карагоды, гульні і забавы для моладзі і дзяцей, традыцыйная музыка і танцы, кірмаш.

Арганізатары на афіцыйнай старонцы падзеі ў сацыяльных сетках просяць быць не гледачамі, а ўдзельнікамі, бо толькі так можна сапраўды адчуць і зразумець традыцыйную культуру.

Таксама вітаюцца традыцыйныя строі, птушкі і стужкі на дрэвы.

Пачатак а 13 гадзіне, заканчэнне а 17-й.

**Аддзел інфармацыі.**

## ТЭМА НУМАРА

# У Вілейцы прапаноўвалі зрэзаць каля 290 дрэў і пасадзіць новыя

ВІЛЕЙКА

**"Супраць" выказаліся 17 з 19 удзельнікаў абмеркавання. Такія вынікі прынёс сход па абмеркаванні з грамадскасцю высечкі дрэў па дзвюх вуліцах у Вілейцы.**




У красавіку 2013 года на вуліцы Горкага спілавалі старыя дрэвы.

Прайшоў ён 10 сакавіка ў райвыканкаме.

На сходзе расказалі пра прапанову высечкі каля 160 дрэў па вуліцы Чырвонаармейскай і больш за 130 – па вуліцы 1 Мая, а на іх месцы пасадзіць маладыя. Патлумачыла, чым гэтая прапанова выкліканая, намеснік дырэктара па камунальных пытаннях Вілейскай ЖКГ **Марыя Андрыеўская:**

– У сувязі з тым, што дрэвы старыя, перараслі, фарміраваць кроны ўжо немагчыма. Некаторыя галіны знаходзяцца ў электрычных правадах. Ёсць прапанова спілаваць дрэвы і пасадзіць новыя – аднолькавых парод, каб усе былі аднаго ўзросту і вышыні.

На месцы высечаных дрэў планавалі пасадзіць ліпы, рабіны.

Віляйчане задавалі пытанні прадстаўнікам ЖКГ і райвыканкама, выказвалі свае меркаванні. Скажам, хтосьці лічыў, што шмат дрэўцаў не прыжывецца, камусьці хацелася, каб дрэвы спілавалі толькі ля іх дома.

### "У дарослага дрэва больш сіл, каб выжыць"

У абмеркаванні ўдзельнічаў каардынатар кампаніі па абароне зялёных насаджэнняў "Гарадскі ляснічы" **Ігар Корзун** з Мінска.

– Мне зусім незразумела, навошта высякаць жывыя дрэвы, – нават калі яны знаходзяцца ў не вельмі прыемным эстэтычным стане. Ёсць спосаб захаваць дрэвы, каб яны працягвалі жыць. Бо дарослае дрэва – гэта дарослае дрэва. У яго больш сіл, каб выжыць. Бывае, што здаровае дарослае дрэва не заменіць нават сотня маладых дрэўцаў, – расказаў ён потым. – Безумоўна, дрэвы, якія знаходзяцца ў аварыйным стане, ёсць сэнс спілаваць, але неабходна аб'ектыўна падыходзіць да вызначэння аварыйнасці дрэў.

Ігар Корзун лічыць, што многія маладыя дрэвы не прыжывуцца:

– Хоць у Вілейцы экалагічная сітуацыя лепшая, чым у Мінску, але ўсе роўна прыжывальнасць маладых дрэўцаў будзе вельмі нізкая. Таму аргумент: "Мы пасадзім замест старых дрэў новыя, і яны ўсе акуратна вырастуць і будзе ў нас прыгожа" – гэта памылковыя думка. Яны не вырастуць усе: многія загінуць.

Ігар Корзун правёў маніторынг на гэтых вуліцах.

– Большая частка дрэў мае пашкоджанні ў ніжняй частцы ствала ў выніку працы дарожнай тэхнікі ці прычэпаў трактароў. Усе гэтыя раны застаюцца, туды трапляе інфекцыя, дрэвы пачынаюць паціху гніць. Таму на будучыню: перш чым спілоўваць аварыйныя дрэвы, трэба ўстанавіць прычыну, чаму яны сталі такія. І пастарацца яе ліквідаваць, каб захаваць дрэвы для горада.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

**Даведка "РГ".** Высечку дрэў можна праводзіць без абмеркавання з грамадскасцю: калі дрэвы ў неналежным стане (у тым ліку аварыйныя) або перашкаджаюць эксплуатацыі інжынерных камунікацый для жыццезабеспячэння насельніцтва ці будынкаў.

# За хібы будаўнічую фірму аштрафавалі амаль на 250 мільёнаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Маладзечанскі міжраённы камітэт дзяржкантролю правёў планавую праверку ТАА "Кантракт-Профіль".**

Высветлілі, што арганізацыя будавала без зацверджанай належным чынам праектна-каштарыснай дакументацыі, займалася самавольным будаўніцтвам.

Падчас работы камітэта знайшлі тры будоўлі, не ўлічаныя бухгалтэрыяй, на агульную суму 122 мільёны рублёў.

Парушэнні парадку вядзення бухгалтарскага ўліку прывялі да скажэння вынікаў фінансава-гаспадарчай дзейнасці. З-за гэтага чысты ўбытак павялічыўся на 167 мільёнаў рублёў. Таварыства давала непраўдзівыя звесткі ў статыстыку, выкарыстоўвала зямельны ўчастак для іншых мэт.

Неаднаразова таварыства дапускала несвоечасовае паступленне валютнай выручкі – з перавышэннем тэрміну да месяца.

Без дэкларацыі аб адпаведнасці ў 2013-2014 гадах вырабілі і рэалізавалі прадукцыю на 680 мільёнаў рублёў. Без распрацаваных і належна зарэгістраваных тэхнічных умоў – на 88 мільёнаў рублёў.

За правапарушэнні да адміністрацыйнай адказнасці прыцягнулі шэсць службовых асоб на агульную суму дзевяць мільёнаў рублёў, да дысцыплінарнай – чатырох. Таварыства ў цэлым аштрафавалі на 245, 9 мільёна рублёў.

Матэрыялы праверкі накіравалі ў праваахоўныя органы і землеўпарадкавальную службу.

**Паводле прэс-рэліза Маладзечанскага міжраённага камітэта дзяржкантролю.**



| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 10.03 | 17.03 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 20 985,00 | **20 725,00** |
| Еўра | 23 033,00 | **22 972,00** |
| Злоты | 5 327,81 | **5 352,47** |
| Расійскі рубель | 289,87 | **291,75** |
| Грыўня | 796,69 | **769,30** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 16.03** | | |
| Еўра | 22800/23200 | **22700/23000** |
| Долар ЗША | 20800/21100 | **20500/20750** |

| ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна) | | |
|---|---|---|
| **ПРАДУКТЫ** | 9.03 | 16.03 |
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 169 900 | **169 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 28 900 | **28 900** |
| Свініна 1 кг | 70 000 | **70 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 43 800 | **44 900** |
| Селядзец, 1 кг | 47 000 | **47 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 138 000 | **138 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 14 500 | **14 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 17 500 | **18 900** |
| Яйкі курыныя С1, 1 дзясятак | 16 000 | **16 500** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 24 000 | **24 000** |
| Маянэз, 200 г | 6 600 | **6 600** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 14 000 | **14 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 6 900 | **7 900** |
| Часнок, 1 кг | 74 500 | **73 500** |
| Капуста, 1 кг | 19 900 | **15 900** |
| Морква, 1 кг | 6 900 | **6 500** |
| Баклажаны, 1 кг | 59 900 | **49 900** |
| Лімоны, 1 кг | 44 000 | **39 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 000 | **27 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 28 500 | **27 000** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 24 500 | **23 500** |
| Ківі, 1 кг | 29 500 | **31 500** |
| Буракі, 1 кг | 5 500 | **5 000** |
| Памідоры, 1 кг | 32 000 | **28 000** |
| Агуркі, 1 кг | 37 500 | **34 000** |
| Перац, 1 кг | 79 500 | **75 000** |
| Вінаград, 1 кг | 30 000 | **35 000** |
| Бананы, 1 кг | 24 900 | **25 000** |
| Хурма, 1 кг | 27 500 | **49 500** |
| Шампіньёны св., 1 кг | 54 000 | **-** |
| Яблыкі, 1 кг | 13 000 | **13 000** |
| Грушы, 1 кг | 30 000 | **29 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **60 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **25 000** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

НАВІНЫ

## У Мядзеле – новы начальнік РАУС

МЯДЗЕЛ

Начальнікам Мядзельскага райаддзела ўнутраных спраў прызначаны палкоўнік міліцыі **Андрэй Мініч.** Да гэтага ён больш за месяц выконваў абавязкі начальніка райаддзела.

Андрэю Мінічу – 41 год. Нарадзіўся ў вёсцы Лапічы ў Асіповіцкім раёне на Магілёўшчыне. Мае вышэйшую адукацыю. Ад 1995 года працаваў на розных пасадах у сталічнай міліцыі. Да апошняга часу ён быў намеснікам начальніка Фрунзенскага РУУС Мінска – начальнікам міліцыі грамадскай бяспекі, паведаміў часовы выканальнік абавязкаў на пасадзе намесніка начальніка Мядзельскага РАУС па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні **Міхаіл Рудкоўскі.**

## Ад вугельчыка загарэлася падлога ў доме

ВІЛЕЙКА

8 сакавіка паведамілі, што ў вёсцы Сачыўкі Ільянскага сельсавета задымленне ў жылым доме.

Па прыбыцці выратавальнікаў з дома ішоў дым: аказалася, што каля печы гарэла падлога.

Прычынай загарання стала тое, што не былі зачыненыя топачныя дзверцы печы, паведаміў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч.**

Да гаспадыні прыехала ўнучка, цепліла печ. З печы выпаў вугельчык і пачаў тлець. Загаранне своечасова заўважылі, і бабуля з унучкай выйшлі з дому.

У выніку падлога згарэла на плошчы каля васьмі квадратных метраў, закураныя сцены, столь і маёмасць.

## У гаражы загарэлася машына

ВІЛЕЙКА

Адбылося гэта 8 сакавіка. Каля дзесяці гадзін вечара выратавальнікам паведамілі пра задымленне ў адным з гаражоў гаражна-будаўнічага кааператыва №3 па вуліцы Незалежнасці ў Вілейцы.

Пры прыбыцці на месца выратавальнікі ўстанавілі, што гарэў аўтамабіль “Фіят-Стыла” 2003 года вытворчасці. У выніку машына пашкоджаная: у маторным адсеку выгаралі пластмасавыя элементы і праводка. Пашкоджанае шкло.

Са слоў гаспадара, аўтамабіль ён пакінуў у гаражы ў гадзін пяць вечара. Мужчына сам заўважыў загаранне. Выйшаў на балкон і ўбачыў, як з гаража ідзе дым. Адразу пабег высвятляць, што здарылася. Як адчыніў вароты, то ўбачыў задымленне і полымя ў маторным адсеку.

Прычына загарання ўстанаўліваецца. Адна з найбольш верагодных – замыканне клемаў акумулятарнай батарэі, распавёў інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Аляксандр Казакевіч.**

## Дваіх пенсіянераў паспелі выратаваць падчас пажару

АСТРАВЕЦ

Днём у сераду, 9 сакавіка, у вёсцы Варняны загарэўся драўляны двухкватэрны дом.

У адной з кватэр жыве 63-гадовы пенсіянер разам са сваёй дарослай дачкой. У момант здарэння мужчына быў дома адзін, спаў.

Выратавальнікі знайшлі яго ў задымленым памяшканні, надзелі маску і вынеслі на чыстае паветра.

Няспраўны пажарны апавяшчальнік супрацоўнікі МНС знайшлі пад ложкам.

Гаспадыня другой кватэры – 71-гадовая пенсіянерка. З-за перанесенай хваробы жанчына не змагла самастойна пакінуць задымленае памяшканне, спатрэбілася дапамога выратавальнікаў.

Верагодна, узгаранне адбылося з-за неасцярожнага курэння мужчыны.

**По інфармацыі Гродзенскага абласнога ўпраўлення МНС.**





Фота bestpictures.ru

“Запарожцаў” у Астравецкім, Ашмянскім і Смаргонскім раёнах больш, чым “Мерсэдэсаў” і “Пежо”.

# “Мерсэдэсаў” у Астраўцы менш, чым “Запарожцаў”

АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ, СМАРГОНЬ

**Пры дапамозе Смаргонскай ДАІ мы даведаліся, колькі і якіх машын ездзіць па дарогах Смаргоншчыны, Астравеччыны і Ашмяншчыны.**

Калі скласці колькасць усіх аўтобусаў, грузавікоў і легкавых машын, атрымаецца, што па дарогах вышэйназваных раёнаў ездзяць:

**21 890 транспартных сродкаў у Смаргонскім, 13 930 – у Ашмянскім і 11 920 – У Астравецкім раёнах.**

Аднак у гэтай вялікай колькасці транспартных сродкаў не знайшлося ні аднаго месца для Бугаці, Бэйнтлі, Ролс-Ройса, Мазэраці. На тэрыторыі гэтых трох раёнаў няма ні адной эксклюзіўнай машыны.

Затое, калі гаварыць пра “ветэранаў” руху, то тут можна назваць лічбу 24. Менавіта столькі машын 1940-1950 гадоў выпуску стаяць на ўліку ў Смаргонскай ДАІ.

**Самая папулярная машына ў Смаргонскім раёне – “Фольксваген”. Іх тут зарэгістравана 2750.**

А вось Ашмянскі і Астравецкі раёны аддаюць перавагу ВАЗам. У Ашмянах іх 1910, а ў Астраўцы – 1550.

Мы разам з ДАІ выбралі 10 марак машын, тых, што адразу прыйшлі ў галаву, і склалі своеасаблівы топ самых папулярных машын.

Уладальнікі БМВ, “Таётаў”, “Маздаў” і іншых машын – не хвалюйцеся. У адным з бліжэйшых нумароў мы даведаемся, колькі вас, шчаслівых уладальнікаў гэтых машын, ездзіць па дарогах нашага рэгіёна.

### Топ 10 папулярнасці машын

| | Смаргонскі раён | Ашмянскі раён | Астравецкі раён |
|---|---|---|---|
| 10 месца | Мерсэдэс – 540 | Мерсэдэс – 295 | Мерсэдэс – 210 |
| 9 месца | Запарожац – 610 | Запарожац – 410 | Пежо – 310 |
| 8 месца | Пежо – 830 | Пежо – 420 | Запарожац – 350 |
| 7 месца | Масквіч – 1355 | Форд – 730 | Рэно – 500 |
| 6 месца | Рэно – 1360 | Рэно – 775 | Форд – 560 |
| 5 месца | Форд – 1505 | Опель – 800 | Опель – 680 |
| 4 месца | Опель – 1550 | Масквіч – 925 | Масквіч – 760 |
| 3 месца | Аўдзі – 1595 | Аўдзі – 1160 | Аўдзі – 985 |
| 2 месца | ВАЗ – 2070 | Фольксваген – 1600 | Фольксваген – 1415 |
| 1 месца | Фольксваген – 2750 | ВАЗ – 1910 | ВАЗ – 1555 |



**Наталля ТУР**
natali.turenok@gmail.com
8-044-566-26-99 (працоўны)

## Рэйсавы аўтобус збіў насмерць пешахода ў Астравецкім раёне

АСТРАВЕЦ

Наезд на пешахода са смяротным зыходам адбыўся раніцай 13 сакавіка ў Астравецкім раёне, паведамілі ва ўпраўленні ДАІ УУС Гродзенскага аблвыканкама.

Аўтобус, які рухаўся па маршруце “Астравец – Слонім”, непадалёк ад Гудагая, збіў пешахода. Мужчына знаходзіўся на праезнай частцы, аднак святлоадбівальнымі элементамі пазначаны не быў. Ад удару яго адкінула ў кювет. Ад атрыманых траўмаў пешаход памёр на месцы.

Як адзначылі ў ДАІ, загінулы чатыры разы прыцягваўся да адказнасці за парушэнні, дапушчаныя ў якасці пешахода ў нецвярозым стане. Яго стан у момант гібелі ўсталюе экспертыза.

У дачыненні да кіроўцы заведзена крымінальная справа.

**“Наша ніва” паводле БелТА.**

# Дэпрэсія, шызафрэнія, неўроз...

## Адсоўваем шырму з псіхіятрам Аляксандрам Бажко

**“Дэпрэсняк” і дэпрэсія – розныя паняцці. З першым можна жыць. Другое трэба лячыць. Не “пажадана”, а “трэба”, бо гэтае расстройства мае безліч масак і спачатку можа хавацца за болямі ў сэрцы ці страўніку, а потым перарастаць у рэальныя хваробы.**

Па статыстыцы, да кабінета псіхатэрапеўта даходзяць не больш за 30% усіх хворых на псіхічныя расстройствы. “РГ” прыйшла на прыём да загадчыка Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера доктара-псіхіятра-нарколага **Аляксандра Бажко** і папрасіла патлумачыць, што за хваробы хаваюцца за псіхічнымі расстройствамі, калі трэба пачынаць іх баяцца і, галоўнае, як іх убачыць, пакуль не позна лячыць.

### “Прыедзьце і забярыце. Яна дурная”

Псіхіятрыя – спецыфічная вобласць, у нашым грамадстве яна асабліва не афішыруецца, знаходзіцца за шырмай. Людзей з псіхічнымі адхіленнямі баяцца, на іх вешаюць таўро.

Мы мусім быць у пэўным сэнсе памежнікамі, выконваць адпаведныя абавязкі. З аднаго боку, ахоўваць грамадства ад верагодных праяў гвалту ці ўзбуджэння ў чалавека з псіхічным расстройствам, бо яго паводзіны могуць быць неадэкватныя. З іншага боку, абараняць правы нашых пацыентаў. Каб іх не крыўдзілі, не прыгняталі.

Тэлефануе мне жанчына і кажа: “У мяне дурная суседка. Прыедзьце, забярыце”. Пытаюся: “У чым праблема?” Адказвае: “Яна ў вас на ўліку стаіць”. Я: “У нас такіх 11 492 чалавекі”. Яна: “Дык яна ж каля нас ходзіць, у двор выходзіць, можа цаглінай дзяцей ударыць”. “Даўно яна там жыве?” – “Ды ўжо гадоў дзесяць”. – “Яна за гэты час зрабіла штосьці вам, вашым дзецям?” – “Не, ну яна ж можа”. Ёсць такі метад гіпербалізацыі і давядзення да абсурду, часам даводзіцца казаць: “Добра, што вы па тэлефоне звоніце, а то, ведаеце, тэарэтычна і я магу штосьці камусьці зрабіць”.

Даводзіцца тлумачыць, што злачынствы, забойствы рэдка адбываюцца з прычыны псіхічнага расстройства. Інакш у нас не было б турмаў, былі б толькі псіхбальніцы. Гэта зашоранасць мыслення адлюстроўвае наш менталітэт.

**Наша псіхіка – пэўны віртуальны прадукт. Сукупная дзейнасць вышэйшых псіхічных функцый: мыслення, увагі, успрымання, эмоцый, адчуванняў. Для іх ёсць выпрацаваныя нормы, пэўныя стандарты. Калі ёсць адхіленні ад нормы, гэта ў далейшым можа выліцца ў псіхічнае расстройства.**

### Калі дэпрэсія перастае быць бытавой

Ёсць некалькі паняццяў дэпрэсіі. Бытавая можа выглядаць так: па тэлебачанні ўвесь дзень нічога цікавага, з сябрамі не сустрэўся, жонка катлеты прыгатавала не так, настрою няма, карацей, я ў “дэпрэсняку”.

Калі мы гаворым пра дэпрэсію як пра псіхічнае расстройства, то гэта захворванне, якое мае свае крытэрыі. Важна, колькі часу працягваецца панікны стан, гэта можа быць сігналам, што нешта не так. Калі тры дні ці тыдзень, то гэта нармальна.

Каб паставіць дыягназ, патрэбны цэлы набор сімптомаў. Проста падаўлены настрой ні пра што не гаворыць. Калі няма настрою месяц, калі пры гэтым чалавек губляе апетыт, вагу, калі парушаецца сон, чалавек пакутуе ад бяссонніцы ці, наадварот, падоўгу спіць, калі перастае адчуваць сябе энергічным і ўсё валіцца з рук. Камбінацыя гэтых сімптомаў гаворыць, ёсць захворванне ці не. Устанавіць дыягназ можа толькі доктар-спецыяліст.

Мы мала ацэньваем свае эмоцыі, душэўны камфорт. Але пры дэпрэсіі могуць з’яўляцца саматычныя сімптомы. Можа калоць каля сэрца ці ныць у баку. Бывае, з’яўляюцца болі ў жываце, цяжкасць, праблемы са страваваннем. Дэпрэсія можа хавацца за карыялагічнай паталогіяй, праблемамі са страўнікава-кішачным трактам, праяўляцца высыпаннем на скуры.

З такой “бачнай” праблемай чалавек ідзе да доктара, яго абследуюць, робяць аналізы і кажуць: “Ведаеце, мы нічога не знайшлі, у вас усё ў парадку”. Важна, каб дактары-спецыялісты, тэрапеўты, неўролагі і гэтак далей, былі дасведчанымі таксама ў вобласці псіхічнага расстройства і ў такіх выпадках накіроўвалі пацыента да псіхатэрапеўта ці псіхіятра.

Выявіўшы дэпрэсію, важна зразумець, што яе трэба лячыць. Калі пакінуць на самацёк, то, як правіла, яна ўскладняецца і можа павесці па лжывым следзе, прывесці, напрыклад, да парушэнняў сардэчна-сасудзістай сістэмы. Гэта замкнёнае кола. Мяняецца тэмп работы сэрца, мяняецца артэрыяльны ціск. Калі доўгі час назіраюцца гэтыя змяненні, фарміруецца артэрыяльная гіпертэнзія, ідуць другасныя змяненні. Калі б адразу выявілі дэпрэсію, гэтых наступстваў можна было б пазбегнуць.

**У Маладзечне псіхатэрапеўты ёсць таксама ў паліклініцы №2 і ў паліклініцы №3.**

### Ці можна дапамагчы сабе самому пры дэпрэсіі

Праблема ў тым, што дэпрэсія – біяхімічнае захворванне ў нашым арганізме. Дапамога можа прыйсці толькі ад лекаў. Бывае, здараюцца цуды. Нешта балела, а тут раз – і прайшло. У арганізме кожнага чалавека ёсць саманаводніцкая сістэма, здольнасць да адаптацыі. Кожная падзея ў нашым жыцці – гэта стрэс. Выйграў у латарэю – стрэс. Страціў блізкага – стрэс. Мы перажываем падзею, адаптуемся да яе і жывём далей. Калі арганізм аслаблены, працэс адаптацыі парушаны. У каго вялікі запас здароўя, ёсць падтрымка сяброў, няма праблем з харчаваннем, можа адбыцца і самавылечванне.

Праца нервовай сістэмы залежыць ад перадачы нервовага імпульсу. Дзве клеткі кантактуюць з дапамогай нейрамедыятараў. Іх можна ўявіць як бурбалкі, якія адна клетка выпускае, а іншая – прымае. І калі з адной клеткай штосьці не так, напрыклад, яна не можа выпусціць тыя дзесяць патрэбных бурбалак, альбо другая клетка па нейкіх прычынах не можа іх прыняць, альбо гэтыя бурбалкі зайшлі ў шчыліну, тады з’яўляюцца душэўныя перажыванні. Задача антыдэпрэсантаў – наладзіць перадачу нервовага імпульсу.



**Згодна са статыстыкай, псіхічнае расстройства ёсць у 12-15% насельніцтва. У Маладзечанскім раёне, па дадзеных Маладзечанскага псіханеўралагічнага дыспансера, – у 11 492 чалавек. Гэта афіцыйная лічба, колькасць тых, хто ўжо звярнуўся па дапамогу.**

**Акрамя жыхароў Маладзечна і Маладзечанскага раёна, у Маладзечанскі псіханеўралагічны дыспансер звяртаюцца жыхары суседніх раёнаў: Мядзельскага, Валожынскага, Вілейскага, Смаргонскага.**

### Прычыны дэпрэсіі

Лічыцца, што 5% ад усяго насельніцтва хварэюць на дэпрэсію, гэта шмат. Адны ўзнікаюць пасля пэўных жыццёвых сітуацый: страта блізкага, змяненне працы, змяненне статусу, напрыклад, выхад на пенсію. Крызісныя ўзросты кожная асоба праходзіць са змяненнямі. Калі ў чалавека назапашаны фізічныя і духоўныя рэсурсы, ён можа паспяхова перайсці на новы жыццёвы этап. Калі не – застаецца ў пераходным стане. Гэта расстройства адаптацыі, чалавек не спраўляецца сам, дзякуючы псіхалагічным механізмам абароны.

Напрыклад, мяне звольнілі. Можна плакаць, абурацца, а можна стрымаць сябе, рацыяналізаваць сітуацыю, падумаць: “Гэта месца мне не вельмі падабалася, і ўвогуле, што ні робіцца, усё да лепшага. Знайду іншую працу”. Механізмаў абароны шмат. Калі яны не працуюць, ці не сфарміраваліся, ці не запусціліся, чалавек пачынае прыгнятаць сам сябе. Гэта можа перарасці ў неўроз ці дэпрэсію.

Бывае, у чалавека ёсць праца, сям’я, дзеці. Здаецца, усё ў парадку, але нешта шчоўкае і чалавек перастае адчуваць радасць, з’яўляецца адчуванне ўласнай непаўнацэннасці, парушаецца сон, сыходзіць вага і пайшло паехала.

І той, і іншы сцэнар магчымы.

Амерыканскі псіхолаг **Берэс Скінер** вобразна ўяўляў нашу псіхіку як чорную скрыню. Мы маем штосьці на ўваходзе і штосьці на выхадзе. Што адбываецца ўнутры – не ведаем. Мы можам гэта мяняць, мы навучыліся гэта лячыць, маем вынікі. Але што, як і чаму там адбываецца, разумеем не да канца. Для гэтага ёсць навука. Яна гэтым займаецца.

**Маладзечанскі псіханеўралагічны дыспансер супрацоўнічае з профільнымі кафедрамі і ўкараняе найноўшыя навуковыя распрацоўкі ў сваю практыку па аказанні псіхіятрычнай дапамогі.**

Раней існавала меркаванне, што дэпрэсія да 2020 года можа выйсці на першы план па інвалідызацыі людзей, дзе заусёды пераважалі сардэчна-сасудзістыя захворванні. Дэпрэсія ідзе вельмі хуткімі крокамі і паражае насельніцтва самых розных краін. Прычым дэпрэсіўныя настроі развіваюцца як у гарадажан, так і ў вяскоўцаў. Вяскоўцы, натуральна, менш звяртаюцца па дапамогу, паколькі гараджане больш інфармаваныя пра тое, што гэта можна і трэба лячыць. На вёсцы людзі больш занятыя фізічнай працай і менш думаюць пра сябе. Але перажыванні – яны ўнутры. Яны з імі працягваюць жыць, пакутаваць. І, на жаль, дэпрэсія – тая хвароба, якая можа прывесці да суіцыду.

**Настасся РОЎДА.**

**Працяг будзе.**

**Даведка “РГ”. Аляксандр Бажко.** Нарадзіўся ў Маладзечне. Скончыў маладзечанскую СШ №2 з залатым медалём. Вучыўся на медыка-псіхалагічным факультэце Гродзенскага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта (1997-2003 г.), скончыў з чырвоным дыпломам. У 2001 годзе прайшоў медыцынскую практыку ў Гданьскай медыцынскай акадэміі. Атрымаў падрыхтоўку па гештальт-тэрапіі Маскоўскага гештальт інстытута. Прайшоў інтэрнатуру і спецыялізацыю на базе Рэспубліканскага навукова-практычнага цэнтра псіхічнага здароўя, пасля заканчэння якой яму прысвоілі кваліфікацыю доктара-псіхіятра. Ад жніўня 2004 года працаваў у Маладзечанскім псіханеўралагічным дыспансеры на пасадзе доктара-псіхіятра-нарколага. Па сумяшчальніцтве працаваў доктарам-псіхіятрам выязной псіхіятрычнай брыгады станцыі “хуткай дапамогі”, а таксама доктарам-псіхатэрапеўтам. Выкладаў у медыцынскім каледжы. У 2013 годзе скончыў клінічную ардынатуру на кафедры псіхіятрыі і медыцынскай псіхалогіі Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта па псіхіятрыі-наркалогіі. Ад 2013 года загадвае псіханеўралагічным дыспансерам, галоўны пазаштатны доктар-псіхіятр-нарколаг Маладзечанскага раёна. У 2014 годзе яго прызналі лепшым доктарам-псіхіятрам Мінскай вобласці, а таксама лепшым доктарам-псіхіятрам Беларусі. Па выніках работы за 2015 год Маладзечанскі псіханеўралагічны дыспансер прызнаны лепшай установай аховы здароўя ў Маладзечанскім раёне.

# Спектакль студыі “Кіпень” выклікаў рэзанас: было шмат журналістаў і тэатральных крытыкаў

МАЛАДЗЕЧНА

**Прэм’ера спектакля тэатральнай студыі “Кіпень” у сярэдняй школе №8 выклікала вялікі рэзананс. “Журналістаў” падчас спектакля было ледзьве не палова залы.**

А ўзялі на сябе гэтыя ролі самі школьнікі. Як сапраўдныя знаўцы справы яны папрасілі ў мастацкага кіраўніка тэатральнай студыі **Лілii Стасюлевіч** знімаць усё тое, што адбываецца на сцэне. Атрымаўшы дазвол, знімалі на мабільныя тэлефоны, планшэты.

### Развагі тэатральных крытыкаў спынялі настаўнікі

Былі ў зале і тэатральныя крытыкі, якія абмяркоўвалі, якія сцэны ў герояў атрымаліся добра, а некаторыя трэба было б дапрацаваць. Шкада, што іх развагі перапынялі настаўнікі.

Гледачы ўбачылі спектакль “Снежнае сэрца”, ён пастаўлены па матывах казкі **Гана Хрысціяна Андэрсэна** “Снежная каралева”. Напачатку Лілія Стасюлевіч расказала гледачам пра лёс пісьменніка, яго творчы шлях. Як аказалася, многія гледачы добра ведаюць яго казкі, таму падказвалі назвы твораў.

### У касцюме снегавіка было вельмі горача

Для спектакля былі выдатна прадуманыя дэкарацыі і касцюмы герояў. У Снегавіка (вучань 7 “Б” класа **Максім Бабёр**) быў зроблены ўбор з сінтэпону, адзетыя белыя рукавічкі.

– Касцюм вельмі прыгожы, але ў ім надта горача, – расказаў акцёр. – Летась выконваў ролю льва, акрамя таго, што касцюм гарачы, дык яшчэ і цяжкі. Аднак на што не пойдзеш дзеля цікавай ролі.

Фрэйліны (вучаніца 2 “Б” класа **Віталіна Хлопіна**, вучаніца 2 “В” класа **Ангеліна Крупчанка**, вучаніца 3 “Б” класа **Ангеліна Краўчанка**) былі ў пышных сукеначках, расшытых бісерам, пацеркамі; у Разбойнікаў (вучаніцы 5 “В” класа **Сабіна Карповіч** і **Паліна Суднiковіч**, вучаніцы 6 “Б” класа **Інга Шкет** і **Марыя Вайтовіч**) – шырокія накідкі, на якіх былі кавалачкі поўсці. Снежная каралева (вучаніца 6 “А” класа **Арына Анціпенка**) паўстала перад гледачамі ў беласнежнай сукенцы, з адметнай каронай на галаве. А вось Кай (вучань 1 “Б” класа **Яўген Ляховіч**) і Герда (вучаніца 2 “Б” класа **Вікторыя Міскевіч**) былі ў звычайным адзенні.

### “Я не краў, а часова пазычыў”

Разыначку спектаклю надалі камічныя прыёмы. Калі Герда сустрэлася з Варанятамі (вучаніцы 3 “Б” і 4 “Б” класаў **Юлія Манькова** і **Дар’я Шынкевіч**) і Карлам (вучань 4 “Б” класа **Мікіта Вайно**), яна сказала: “Я шукаю Кая.” Карл, як чалавек, які не адрозніваўся добрым слыхам, пачуў: “Ты хто такая?”

Пры сустрэчы з Карлам і Кларай (вучаніца 6 “Б” класа **Мар’яна Каханоўская**) Герда ўзгадвае хуткамоўку “Карл у Клары скраў каралы, а Клара скрала кларнет”. Карл адразу ж пачаў адмаўляцца, што не краў каралы, а часова пазычыў, а гэта дзве вялікія розніцы. Гэтым самым выклікаў смех у зале.

Падчас спектакля прагучалі карысныя парады і для бацькоў, якія трэба разумець наадварот: “Песціце дзіцятка, ён гэта не забудзе. Песціце дзіцятка, і разбойнік будзе”.

Калі Герда сустракаецца з Каем, ён займаецца тым, што прыдумвае мільён халодных слоў. Аднак у мужнай дзяўчынкі атрымліваецца сагрэць яго сэрца.

### Мастацкі кіраўнік пра спектакль

Як адзначыла мастацкі кіраўнік Лілія Стасюлевіч, падчас пастаноўкі спектакля дзеці маглі паспрабаваць на сабе ўсе ролі. Пасля размяркоўвалі, у каго лепш атрымоўвалася.

– Перад самім спектаклем прыйшлося знайсці замену Атаманцы, бо дзяўчынка не змагла ўдзельнічаць у спектаклі, – расказвае мастацкі кіраўнік. – Але ў нас усё атрымалася, глядач не заўважыў, што нешта пайшло не так.

Пасля спектакля мастацкі кіраўнік разам з акцёрамі разбіралі, што не атрымалася. Аднак памылкі і недакладнасці заўважылі толькі яны, для гледачоў спектакль прайшоў на адным дыханні.

Галіна СІНІЦА.



У раённым конкурсе малюнкі Міхася Сянько з ясляў-садка №14 Маладзечна журы палічыла найбольш творчымі.
Фота Настассі РОЎДЫ.

# Маляваць можна і пенай для галення

## Галоўнае, каб талент быў

МАЛАДЗЕЧНА

**На раённым конкурсе для дзяцей дашкольнага ўзросту ў намінацыі “Чароўная палітра” сёлета перамаглі Дар’я Грынкевіч з Чысцінскага ясляў-садка №1 і Міхась Сянько з Маладзечанскага ясляў-садка №14.**



Фота Настассі РОЎДЫ.

Выхавальніца і кіраўніца гуртка па маляванні ў яслях-садку №14 Маладзечна Ганна Каляда.



Фота Настассі РОЎДЫ.

Малюнак Міхася “Мішкі на Поўначы”.

Конкурс ладзяць другі год. Акрамя “Чароўнай палітры”, у ім ёсць таксама песенная намінацыі і шашачны турнір.

– Ужо на ўзроўні дашкольнай адукацыі мы знаходзім тыя зорачкі, у якіх ёсць асаблівы талент. Каб далей, у школе, яго працягвалі развіваць, – тлумачыць метадыст раённага вучэбна-метадычнага кабінета **Алена Кізіцкая**. – У “Чароўнай палітры” было каля васьмі ўдзельнікаў, і лепшымі абралі тыя работы, дзе найбольш творчасці, дзе бачная “рука” дзіцяці.

### Мішу заўважылі адразу

– Выйшла з дэкрэтнага адпачынку ў жніўні і адразу заўважыла здольнасці Мішы. Ён вельмі ўседлівы хлопчык, адказны, акуратны. На ўсіх занятках актыўны. Ходзіць на гурток па маляванні, вылучаецца сваімі талентамі, – кажа выхавальніца **Ганна Каляда** і глядзіць на пераможцу. – Так, Міша?

Міша да сваёй славы пакуль не прывык, з журналістамі спачатку стрыманы і не асабліва гаваркі.

**– Які твой любімы колер?**

– Светла-зялёны.

**– Што найбольш любіш маляваць?**

– Паўночнае ззянне, – трохі падумаўшы, адказвае ён.

– Я расказала яму пра гэта, – усміхаецца Ганна Віктараўна. – Мы малюем у розных тэхніках: і манкай, і пальчыкамі, і далонькай. Малюнкі атрымліваюцца вельмі цікавыя, незвычайныя.

Дыплом за перамогу ў “Чароўнай палітры” Міша пакуль яшчэ на рукі не атрымаў, у садку яго прыберaглі да бацькоўскага сходу, каб уручыць пры ўсіх.

– У садку люблю катаць з **Ігарком** машынкі, – расказвае пра любімыя заняткі Міша. – Мы з Ігарком і **Лёшкам** больш за ўсіх сябруем. А яшчэ люблю хадзіць на фізкультуру.

Заняткі па маляванні ў садку праходзяць два разы на тыдзень. І яшчэ дадаткова два разы на тыдзень – гурток.

– У гуртку мы звычайна асвойваем нетрадыцыйныя тэхнікі малявання, каб дзецям было цікава. Усе конкурсныя работы Мішы выкананыя якраз у нетрадыцыйных тэхніках. Гэтым, мабыць, і спадабаліся журы. Вельмі цікавыя працы, зробленыя, напрыклад, з пены для галення. Змешваецца клей ПВХ і пена, можна рабіць аб’ёмныя работы.

**– Дома малюеш? – пытаюся ў Мішы.**

– Дома малюю алоўкамі, – расказвае хлопчык. – Спартыўны комплекс начарціў алоўкам і лінейкай. Яго нам Дзед Мароз на Новы год прынёс. Але больш люблю размалёўваць. Яшчэ люблю спортам займацца, з татам. У футбол гуляем цяпер. З малодшым брацікам, **Сенем**, больш за ўсё ў “Лега” любім гуляць. Нам яго мама падарыла на 23 лютага. Сам я тату на 23 лютага зрабіў паштоўку з танкам, а маме на 8 Сакавіка – васьмёрку.

**– Летам як адпачываеш?**

– Летам з брацікам у бабулі адпачываем. Калі ў бабулі Валі былі, то яна нам малявала на паперы, а мы размалёўвалі. Яшчэ са стрыечным братам **Уладзікам** летам на сасне зрабілі дом з галінак. Але ён зламаўся. Вецер, мабыць, паваліў. А калі на выхадныя ездзілі, мы з **Уладзікам** лук зрабілі. Я яго ў будцы знайшоў, адкуль сабака збег. У мяне шмат стрыечных братоў: **Ілюха**, **Максім**, **Алег**. Стрыечная сястра **Дашка**.

### “Калі ў пакоі цішыня – значыць, збіраюць “Лега”

Мама Мішы **Ірына Канстанцінаўна** прыгадвае, што асаблівыя здольнасці ў сына заўважыла выхавальніца Ганна Віктараўна. Яна распавяла пра гэта бацькам і прапанавала запісацца ў гурток. Потым – паўдзельнічаць у конкурсе.

– Мы пагадзіліся. Спадзяваліся, што перамога, вельмі хацелі гэтага. Міша заўсёды любіў маляваць: і фарбамі, і фламастарамі, і алоўкамі. Выразае часам таксама. У канструктар любіць з брацікам пагуляць. Калі яны збіраюцца разам у пакоі і там цішыня – значыць, збіраюць “Лега”. Міша дома спакойны, адказны, калі просім штосьці зрабіць – робіць.

Ірына Канстанцінаўна кажа, што ісці ці не ісці ў мастацкую школу будзе вырашаць сам Міша. Калі не знікне цікавасць да малявання, калі ён захоча і далей маляваць, то ў яго будзе такая магчымасць.

Настасся РОЎДА.

**Тэлефонныя коды гарадоў рэгіёну:**

| | |
|---|---|
| **Астравец** | -01591, |
| **Ашмяны** | -01593, |
| **Валожын** | -01772, |
| **Вілейка** | -01771, |
| **Маладзечна** | -0176, |
| **Мядзел** | -01797, |
| **Смаргонь** | -01592. |

## ТРАНСПАРТ

### ПРАДАЕЦЦА

• Аўдзі А4 В5, 1,9Д, авант, АБС, есп, ц/з, э/п, дажымы шкла, кліма, люк і іншае у добрым стане. Т. МТС (8-029) 7033145.*

• Бус Міцубісі L 300, 1987 г.в на запчасткі. Т. (8-029) 8557167.

• ГАЗ-3307, 1993 г.в, у рабочым стане, 17 000 000 руб. Т. (8-029) 8739223.

• Гольф 3, 1994 г.в, 1,4Б. Т. (8-029) 6158448.

• **ДЖЫП SSANG YONG REXTON**, 2004 г.в, 2,7 xdi – Мерсэдэс рухавік і АКПП. Чорны колер, 210 000 км прабег, 3 камплекты гумы (зіма + лета новая) і 1 камплект на ўсе сезоны, 2 камплекты літых дыскаў. Антыкаразійная апрацоўка рамы, арак і днішча. Навігацыя, ТВ, радар-дэтэктар, магнітола Prology + саббуфер, гучная сувязь. Новы АКБ. Расход 9 літраў. Выдатны стан. Торг. 190 000 000 руб. Т. (8-029) 1395725.*

• Маленькае, але ўмяшчальнае аўто Toyota Yaris, 2003 г.в. Адзін гаспадар у РБ. Ездзіла крайне рэдка (прабег 136 000 км). Чыстая, акуратная і выдатная машына, у тэрмін абслугоўвалася. Тэлефануйце Алегу (8-029) 3672477.*

• Мерсэдэс-300Д, 1984 г.в, універсал, на хаду. Т. (8-0176) 763878, (8-044) 4997231, (8-029) 9098900.*

• Міцубісі-Карызма, 1995 г.в, 1,6 бензін, цёмна-зялёны, добры стан, нядорага. Т. Вэлком (8-029) 6865329, МТС (8-033) 6862629, (8-0176) 741879.*

• Рэно-Сцэнік, 1999 г.в, 2,0 бензін, асфальт. Т. (8-01771) 68401, (8-029) 2602492.

• Рэно-Меган, 1998 г.в, 1,6 газ-бензін, 260 тыс. км, механіка, добры стан. Т. (8-029) 7571651.

• Рэно-Меган-Сцэнік, 2000 г.в, 1,9 ДСІ, серабрысты металік. Т. (8-029)7642257.

• Рэно-Сцэнік, 2006 г.в, 1,9ДСІ, 6 МКП. Т. (8-029) 6265078.*

• Сеат-Таледа, 1997 г.в, 1,6і. Т. (8-029) 3660918.

• Сітраэн-Ксара, 2010 г.в, 1,9Д, хэтчбэк, 54 000 000 руб. Торг. Т. (8-033) 3136945.

• Скутар "Хорс-Мотарс" 156, 2014 г.в, нядорага. Т. (8-0176) 746045, (8-044) 4827049.

• ФВ Гольф-3, 1997 г.в, 5 дзвярэй, выдатны стан, 46 000 000 руб. Т. (8-029) 8739223.

• ФВ Т-2, 1989 г.в, дызель 1,6, легкавы. Т. (8-029) 3187448.*

• ФВ-Гольф 2, 1985, 1,6 дызель, бажавы, хэтчбэк, ТА, страхоўка, пераварaны, 43 000 000 руб. Т.Вэлком (8-029) 3361655.

• Фокус-Форт, 2000 г.в, хэтчбэк, 1,8 ТДІ. Т. (8-029) 6814082, (8-044) 7576072.*

• Форд-Эскорт на запчасткі. Т. Вэлком (8-029) 6578681.*

• Форд-Сіера на запчасткі. Т. Вэлком (8-029) 6578681.*

• Форд-Сіера, 1990 г.в, 2,0 бензін, няспраўная, рухавік, радыятар, 5 000 000 руб. Т. (8-029) 1205187.

• Форд-Скорпіё, 1990 г.в, 2,0Б, хэтчбэк, поўны электрапакет, добры стан, тэрмінова. Т. (8-033) 3214607.

• Хундай-Эксэль, 1999 г.в., серабрысты металік. Т. МТС (8-029) 7516369.

• Дыскі літыя з гумай 205х55х16 да Мерсэдэса, 4 шт. Т. (8-029) 2510119.

• **ЗАПЧАСТКІ ПА КУЗАВЕ АЎТО;** крылы, капоты, парогі, рам. устаўкі арак і іншых частак кузава, а таксама глушыцелі, бамперы, падкрылкі і шмат іншага. ІП Шыцік П.Л. УНП 191477481. Т. (8-029) 7640884, 707810.*

### КУПЛЮ

• **АЎТАМАБІЛЬ** у любым стане, хутка. Т. (8-029) 1261119, (8-029) 8714747.*

• **АЎТО Ў ЛЮБЫМ СТАНЕ, ДОРАГА! Т. (8-029) 5016186.***

• Аўтамабіль у любым стане. Т. (8-033) 6062301.*

• Аўто для сябе. Тэрмінова. Т. (8-029) 6510099.*

• Любое аўто на хаду. Грошы адразу. Т. (8-029) 7918210.*

### ПАСЛУГІ

• Паслугі міні-экскаватара, усе віды земляных работ. ІП Матусевіч Ю І. УНП 691397070. Т. (8-029) 6654868, (8-0176) 778888.*

• Паслугі экскаватара ЕК-14 (0,85 куб.м) і франтальнага пагрузчыка ТО-18Б. Дастаўка ўласным тралам. ІП Вабішэвіч І.В. УНП 690696017. Т. Вэлком (8-029) 3713335, МТС (8-033) 3131.*

• Міні-экскаватар, траншэі пад ваду, газ, падмурак і г.д. ІП Кроер А.Л. УНП 691397772. Т. (8-029) 6926052.*

• **МІНІ-ЭКСКАВАТАР**: усе віды земляных работ. ІП Жак А.А., УНП 691515498. Т. (8-044) 5522028.*

## НЕРУХОМАСЦЬ

### ПРАДАЕЦЦА

• 1-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-029) 6372633.*

• 1-пакаёвая кватэра ў самым цэнтры Маладзечна з дыхтоўнай мэбляй. 600 000 000 руб. Т. (8-029) 9950517.

• 1-пакаёвая кватэра ў Смаргоні, агул. пл. 35,3 кв. м, 2 лоджыі, нядорага. Т. (8-029) 9659189.

• 2 сумежныя ўчасткі па 0,1040 га кожны ў садовым таварыстве "Дамашы", 1 км ад Маладзечна (напрамак – Смаргонь). Ёсць гаспабудовы. Цана дагаворная. Т. (8-029) 6365553 Вэлком. *

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы, Незалежнасць, 2008 г. Т. Вэлком (8-029) 9483968.

• 2-пакаёвая кватэра ў Вілейцы. Т. (8-01771) 20165, (8-025) 7417101.*

• 2-пакаёвая кватэра ў драўляным доме. Т. МТС (8-029) 8775320.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. В. Гасціны,72б. ПРУП "Экспрэснерухомасць" УНП 190780207. Т. (8-029) 1810280.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне , агул. пл. 42 кв, м, вокны ПВХ, нядорага. Т. (8-029) 9659189.

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Скарыны, 14 а, 47,9/29,8/6. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Чыгуначнай, 2/2 пав., 48,4 кв.м, 18,7/13,3/6,4. Нядорага. Т. (8-029) 7046367.*

• 2-пакаёвая кватэра ў Маладзечне. Т. (8-044) 7576072.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Вялікі Гасцінец, 119, цагляны дом 1980 г.п, 8/9 паверх, 64,4/39,1/7,7. Т. (8-029) 6411879.*

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне па вул. Я. Купалы, 108-а. ПРУП "Экспрэснерухомасць" УНП 190780207. Т. (8-029) 1810280.

• 3-пакаёвая кватэра ў Маладзечне, прыватызаваная, 1 паверх, 62/39/9, частковa пакіну мэблю, 1 058 000 000 руб, торг. Т, (8-029) 3681413.*

• Гараж у ГБК №31 "Вялікасельскі" ў Маладзечне на 2 машыны, плошча 75,9, з бетонным падвалам, цана дагаворная (нядорага). Т. (8-029) 8597976 МТС.*

• Дача ў в. Бяртошкі, 9 км ад Маладзечна, 25 сотак, лазня, гаспадарчыя пабудовы, новы калодзеж, 380 Вольт. Т. (8-029) 3811905.*

• Дачны ўчастак, с/с Мясата, в. Пісараўшчына, "Медык плюс" уч. № 62, вул. Падгорная. Т. (8-0176) 772229.

• Дом для дачы ў в. Бязводнае Вілейскага р-на. Т. (8-029) 5723243.

• Дом драўляны аднаэўроўневы 63 кв. м у Вілейцы па вул. Зарэчнай, 20. Усе камунікацыі. Участак 6 сотак. Т. Вэлком (8-029) 6570465.

• Дом драўляны ў цэнтры Вілейкі. Т. МТС (8-029) 8590663.

• Дом у в. Клыні Вілейскага р-на. Т. (8-01771) 46489.

• Дом у в. Любань. Т. МТС (8-033) 6026288.*

• Дом у в.Цынцавічы Вілейскага р-на (можна на дачу), агарод, сад, калодзеж. Т. (8-029) 5644936.*

• Дом у Валожыне, участак 7 сотак. Т. Вэлком (8-029) 9609117.*

• Дом у вёсцы, можна пад дачу. Гаспадарчыя пабудовы, лазня. Т. (8-029) 8062394, (8-033) 6466817.

• Дом у Вілейцы. Т. (8-029) 6562198.*

• Дом у Вілейцы. Цана дагаворная. Т. (8-029) 7632058.

• Дом у Маладзечне 70/53/30, газ, выгоды, гараж. Т. (8-029) 2608541.*

• Дом у цэнтры в. Касцяневічы Вілейскага р-на, 53 кв, 25 сотак, ці абменяю на кватэру ў Вілейцы, Маладзечна. Т. (8-029) 5023781.

• Катэдж у Вілейцы, дом у в. Кузьмічы Вілейскага р-на. Т. (8-029) 7717436.

• Паўдома ў Вілейцы, тры пакоі, уваход асобны. Т. (8-025) 5444975.

### КУПЛЮ

• Дом, дачу, участак. Т. (8-029) 1810280.

### МЯНЯЮ

• Дом + 1-пакаёвую кватэру ў Маладзечне на 2, 3-пакаёвую ў Маладзечне, варыянты, ці прадам. Дом 10 км ад г. Маладзечна па ходу эл. цягніка на Мінск. Т. (8-029) 8509515. Пасля 17.00 гадзін. *

### ЗДАМ

• Пакой, паўдома, часовы будынак у в. Выверы. Т. (8-044) 7873433.

• У арэнду на доўгі тэрмін вытворчае памяшканне ў Вілейцы плошчай 400 кв.м. Т. (8-033) 3136896, (8-029) 6283849.*

### ІНШАЕ

• Прадам павільён недабудаваны ў Вілейцы па вул. Незалежнасці, каля Еўраопта. Т. (8-029) 5768392.*

## ПАСЛУГІ

### ДЛЯ МАЛАДЫХ

• Вяселлі. Юбілеі. Святочныя карпаратывы. Т. (8-029) 6188716.*

• Вясёлы тамада, жывая музыка, разумныя цэны.Т. (8-025) 5144071.*

• Музычнае суправаджэнне вяселляў, юбілеяў. Баян. Валынка. Адэкватная цана. ІП Ярук С.П. УНП 690696231. Т. (8-029) 7758341.*

### ФОТА-, ВІДЭАЗДЫМКА

• АМ-Відэа. Відэаздымка і мантаж вясельных фільмаў, карпаратываў, мерапрыемстваў. Якасць HD. ІП Малько А.Г. УНП 691291314. Т. Вэлком (8-029) 8745891.*

• Фота і відэаздымка вяселляў, аблічбоўка відэакасет. ІП Чарняўскі С.В. УНП 691396671. Т. (8-029) 3305452, (8-029) 7686148.*

### ГРУЗАПЕРАВОЗКІ

• Мерсэдэс - 412, 2,5 т, 20 куб.м. Санпашпарт. Без выхадных. ІП Габрыновіч А.В. УНП 691885058. Т. (8-029) 7015520.*

• **ГРУЗАПЕРАВОЗКІ** да 3 тон, горад, РБ, мэблевы фургон. ІП Радзівановіч А.А. УНП 691890548. Т. (8-029) 5064233.*

### ІНШЫЯ ПАСЛУГІ

• Абшыўка дамоў сайдынгам, блок-хаўсам, вагонкай. Усе віды дахавых работ, фундамент, кладка, падшыўка, вадасцёкі. Наяўны, безнаяўны разлік. ІП Клімовіч С.В. УНП 691296995. Т. (8-029) 3297170, (8-033) 3350723.*

• Аднаўленне бухгалтарскага ўліку ІП, ПУП, ТАА, ТДА. Кансультацыя па вядзенні, 1С, аднаўленні, падаткаабкладанні, ліквідацыі (баланс), адкрыцці, рэарганізацыі. ІП Сільцова М.І. УНП 691507537. Т. МТС (8-029) 7632186.*

• **ВЫКАНАЮ ЎКЛАДКУ ПЛІТКІ ЛЮБОЙ СКЛАДАНАСЦІ, ВЫРАЎНУЮ СЦЭНЫ.** Якасць гарантую. Досвед працы. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. (8-029) 7709929.*

• **АРГОНАВАЯ ЗВАРКА, ЗВАРАЧНЫЯ РАБОТЫ,** парогі, аркі, днішчы, аланжэроны, глушыцелі і інш. **АНТЫКАРАЗІЙНАЯ АПРАЦОЎКА DINITROL.** Замена ланцугоў, рамонт падвескі. **ФАРБАВАЛЬНЫЯ РАБОТЫ.** ІП Блоцкі Д.Г. УНП 691395713. Т. (8-029) 3239999, (8-033) 3239999.*

• Выраб металічных агароджаў і добраўпарадкаванне месцаў пахаванняў: падсыпка пяску, заліўка бетонам, укладка пліткі, устаноўка помнікаў, зачыстка і афарбоўка старых агароджаў. ІП Леган А.С. УНП 691888682. Т. МТС (8-029) 7709929.*

• **ВЫРАБ ЯКАСНЫХ ЧАХЛОЎ** любой складанасці, пашыў аўтамабільных салонаў, тэнтаў для лодак і катараў. ІП Мацко А.А. УНП 691514463. Т. Вэлком (8-029) 6932184.*

• Дах, заліўка фундаментаў, вагонка, блок-хаўс, кладка, аддзелка лазняў, гіпсакардон, ламінат. Наяўны/Безнаяўны. Замер, дастаўка матэрыялу. Па РБ. ІП Лубочка А.А. УНП 691402568. Т. (8-029) 6096013, (8-029) 2281074.*

• **ДЫПЛОМНЫЯ, КУРСАВЫЯ, СПРАВАЗДАЧЫ ПА ПРАКТЫЦЫ.** Права, справаводства, архіваназнаўства, ідэалогія, паліталогія і інш. гуманітарныя дысцыпліны дапаможа напісаць кандыдат навук. E-mail: 6661741@mail.ru. ІП Крывіцкі Л.В. УНП 190609577. Т. (8-029) 6661741 (з 14-00 да 17-00 або з 22-00 да 24-00, штодзённа).*

• Мантаж, дэмантаж даху, кроквенная сістэма. Аддзелка дамоў, франтонаў сайдынгам. Кладка блокаў. Сцяжка падлогі, ламінат. Наяўны і безнаяўны разлік. ІП Бажко А.В. УНП 691888639. Т. (8-029) 6943243, (8-033) 3013300.*



## Прыём дробных аб'яў

| | |
|---|---|
| **Маладзечна** | Вялікі Гасцінец, 68а. Тэл. **753841, 769667.** |
| **Астравец** | вул. Ленінская, 5, аддзяленне сувязі 1. Тэл. **21140.** |
| **Ашмяны** | вул. Савецкая, 97, пошта. Тэл. **45211.** |
| **Валожын** | вул. 1 Мая, 3, пошта. Тэл. **55542, 55237.** |
| **Вілейка** | вул. Партызанская, 44, магазін «Парус». Тэл. **20083.** |
| **Вілейка** | вул. 17 Верасня, 30, пошта. Тэл. **55233, 55539.** |
| **Мядзел** | вул. 17 Верасня, 2, пошта. Тэл. **55266, 55431.** |
| **Смаргонь** | вул. Танкістаў, 8 (насупраць ваенкамата). Тэл. **33077.** |
| **Чысць** | вул. Зялёная, 4, магазін «Канцкласік». Тэл. **799172.** |

* *Аб'явы, адзначаныя зорачкай, змешчаны ў Інтэрнэце на сайце rh.by*



Фота з альбома Іосіфа СТАБРОЎСКАГА

Атака нямецкіх пазіцый ля возера Нарач 5 сакавіка (па старым стылі) 1916 года.

# Як пачыналася Нарачанская аперацыя, можна пабачыць на здымках з альбома Іосіфа Стаброўскага

МЯДЗЕЛ

**– Гэта ўнікальныя здымкі. Яны зроблены ў першы дзень Нарачанскай аперацыі. Тым больш, што гэта не пастановачныя здымкі, на іх паказаная рэальная атака рускіх войскаў, – кажа краязнаўца з Мядзельшчыны Вадзім Праўрацкі.**

На іншых здымках можна пабачыць падбітую рускую гармату, выбухі.

Гэтыя здымкі – з фотаальбома "Крывавым следам" **Іосіфа Стаброўскага**. У альбоме ён сабраў 300 фотаздымкаў. У іх паказаў жыццё і побыт салдат і афіцэраў, бежанцаў. Здымкі перадаюць жахі і пакуты той вайны.

Пра аўтара фотаальбома расказалі ў Слонімскім раённым краязнаўчы музеі, заснавальнікам якога быў Іосіф Стаброўскі. І музей носіць яго імя.

Унук паўстанца 1863 года і сын капітана царскай арміі нарадзіўся ў 1870 годзе ў маёнтку Орлавічы Слонімскага павета. Іосіф Стаброўскі працягнуў традыцыі сям'і. Скончыў Полацкі кадэцкі корпус, Аляксандраўскае ваеннае вучылішча.

У час ваеннай службы стаў цікавіцца гісторыяй і археалогіяй. Ад канца 19 стагоддзя займаўся гісторыяй і археалогіяй Беларусі, праводзіў раскопкі, збіраў калекцыі кніг і археалагічных знаходак. Потым, у 1917 годзе, скончыў вольным слухачом Маскоўскі археалагічны інстытут, а ў 1920-м – Вышэйшыя археалагічныя курсы пры Самарскім універсітэце.

Пачатак Першай сусветнай вайны Іосіф Стаброўскі сустрэў на паўночна-заходнім тэатры баявых дзеянняў. У 1916 годзе ён ваяваў каля возера Нарач.

Завяршыў Першую сусветную вайну ў чыне палкоўніка.

Пасля заканчэння вайсковай службы Іосіф Стаброўскі вярнуўся ў Слонім. Стаў летапісцам роднага краю, сабраў найбагацейшую археалагічную, этнаграфічную і нумізматычную калекцыі, якія леглі ў аснову музея.

Іосіф Стаброўскі пражыў амаль стагоддзе: памёр на 99-м годзе жыцця ў 1968 годзе.



**Алесь Высоцкі**
alvy@tut.by

## Праходзіць канферэнцыя да 100-годдзя Нарачанскай аперацыі

МЯДЗЕЛ

**Ад 17 да 19 сакавіка адбываецца навукова-гістарычная канферэнцыя "Нарачанская аперацыя 1916 года: гісторыя і сучаснасць". Праходзіць яна ў межах Міжнародных гістарычных чытанняў "Гісторыя ў імя міру".**

Чытанні пачаліся ў чацвер у Мінску. У другой палове дня ўдзельнікі канферэнцыі наведваюць памятныя мясціны на Мядзельшчыне.

У пятніцу раніцай адбудзецца паніхіда ў царкве ў Занарачы. Удзельнікі канферэнцыі пабываюць на месцах пахаванняў салдат і афіцэраў у вёсках Чарэмшыцы, Пронькі, Нарач (Кабыльнік).

Потым у курортным пасёлку Нарач (Купа) пройдуць пленарнае пасяджэнне, праца ў секцыях і "круглы стол". Мяркуюць, што будзе каля 90 удзельнікаў – з Беларусі, Расіі, Вялікабрытаніі. Прадстаўяць яны каля 40 дакладаў.

– Чакаецца, што ўдзельнікі паведамяць шмат цікавых і незнаёмых фактаў, удакладненых звестак, – кажа намеснік генеральнага дырэктара Нацыянальнага парку "Нарачанскі" па навуковай рабоце **Валеры Люштык**.

А 19 сакавіка канферэнцыя працягнецца ў Паставах.

Алесь ВЫСОЦКІ

**Даведка "РГ".**
**Нарачанская аперацыя** – наступленне расійскага войска на Усходнім фронце ў сакавіку 1916 года ў ваколіцах возера Нарач. Падзеі адбываліся галоўным чынам на тэрыторыях Мядзельшчыны, Вілейшчыны і Пастаўшчыны. У выніку аперацыі ахвярамі сталі больш за 120 тысяч салдат і афіцэраў ваюючых бакоў.

### КАЛЯНДАР

**18 САКАВІКА**

**1921 год.** 95 гадоў з часу падпісання Рыжскага мірнага дагавору паміж РСФСР (і па ўпаўнаважанні ўрада БССР) і УССР, з аднаго боку, і Польшчы, з другога, аб спыненні савецка-польскай вайны 1920 года (да Польшчы адышлі заходнебеларускія і заходнеўкраінскія землі).

**1791 год.** Прыняты закон "Аб вольных гарадах у Рэчы Паспалітай".

**19 САКАВІКА**

**95 гадоў** з дня нараджэння Язэпа Юхо (1921 – 2004), беларускага гісторыка права.

**85 гадоў** з дня нараджэння Генадзя Кісялёва (1931 – 2008), беларускага гісторыка і літаратуразнаўца.

**20 САКАВІКА**

**1976 год.** 40 гадоў назад у Маскве памёр Уладзімір Дубоўка, паэт, перакладчык.

**Дзень вясенняга раўнадзенства.**

**Міжнародны дзень астралогіі.**

**22 САКАВІКА**

**230 гадоў** з дня нараджэння Яўхіма Лялевеля (1786 – 1861), польскага гісторыка, палітычнага дзеяча, даследчыка гісторыі Польшчы і Беларусі.

**105 гадоў** з дня нараджэння Аляксея Зарыцкага (1911 – 1987), беларускага паэта.

**25 гадоў** з часу стварэння (1991) Нацыянальнага алімпійскага камітэта, вышэйшага кіруючага органа алімпійскага руху ў Беларусі.

**1921 год.** У Вільні выйшаў першы нумар газеты "Беларускі звон" (выходзіла да 24 лютага 1923 г.). Рэдактар-выдавец Францішак Аляхновіч.

**23 САКАВІКА**

Рада беларускай Народнай Рэспублікі абвясціла Гродзеншчыну беларускай тэрыторыяй.

**120 гадоў** з дня нараджэння Льва Лейтмана (1896 – 1974), графіка і педагога, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**110 гадоў** з дня нараджэння Ісака Любана (1906 – 1975), кампазітара, заслужанага дзеяча мастацтваў Беларусі.

**1716 год.** 300 гадоў назад была створаная Віленская канфедэрацыя літоўскай і беларускай шляхты, якая выступіла супраць караля Аўгуста II Моцнага. У выніку былі пашыраныя правы шляхты.

**24 САКАВІКА**

**Сусветны дзень барацьбы з туберкулёзам.**

**1896 год.** 120 гадоў назад нарадзілася Вера Маслоўская (в. Агароднічкі, цяпер Беластоцкі павет Падляскага ваяводства), грамадска-палітычны дзеяч, настаўніца.

Падрыхтавала Марыя БЕРАСНЕВА.

# Трохгадоваму Кірылу патрэбная дапамога на лячэнне

ВІЛЕЙКА

**У студзені гэтага года бацькі маленькага віляйчаніна Кірыла Ардзякі звярнуліся ў бальніцу з двухбаковай пнеўманіяй у хлопчыка.**

Далей яго накіравалі на абследаванне ў Рэспубліканскі навукова-практычны цэнтр анкалогіі, гематалогіі і імуналогіі. Там паставілі дыягназ: востры лімфабласны лейкоз у перыяд разгару, з паражэннем печані і селязёнкі.

Цяпер трохгадовы Кірыл праходзіць курс хіміятэрапіі. Неабходнае пастаяннае назіранне дактароў-спецыялістаў, дарагія лекі, у тым ліку замежнай вытворчасці для аднаўлення імуннай сістэмы дзіцяці пасля курсу хіміятэрапіі і аднаўлення ўнутраных органаў.

Кошт лекаў, што патрабуюцца на першапачатковым этапе лячэння, – ад 30 да 3000 еўра. Зыходзячы з вынікаў хіміятэрапіі, магчыма спатрэбяцца і іншыя дарагія прэпараты.

Кірыл – сын супрацоўніка Вілейскага РАУС капітана міліцыі **Аляксандра Ардзякі.** Афіцэрскі сход райаддзела аказаў матэрыяльную дапамогу супрацоўніку, але для лячэння Кірыла патрабуюцца яшчэ немалыя грошы, паведаміла намеснік начальніка па ідэалагічнай рабоце і кадравым забеспячэнні Вілейскага РАУС **Кацярына Млечка.**

## Як можна дапамагчы Кірылу

**Можна пералічыць пэўную суму ў цэнтр банкаўскіх паслуг філіяла №614/143 ААТ “ААБ Беларусбанк”/Мінскі раён, а. г. Лясны, 16-а, код філіяла ўкладаатрымальніка №520, транзітны рахунак №3819382106084, дабрачынны рахунак №000184.**

Прызначэнне плацяжу: для збору сродкаў на лячэнне Ардзякі Кірыла Аляксандравіча 07.09.2012 г. н., дыягназ: востры лейкоз.

На сайце rh.by можаце знайсці для раздрукоўкі квітанцыю на дабрачынную дапамогу.

**Аддзел інфармацыі.**

**Даведка “РГ”. Востры лімфабласны лейкоз** – злаякаснае захворванне сістэмы крывятварэння. З'яўляецца самым распаўсюджаным злаякасным захворваннем у дзіцячым і юнацкім узросце.

# Пяць дружын працуе на тэрыторыі Маладзечанскай транспартнай міліцыі

МАЛАДЗЕЧНА

**У іх уваходзяць работнікі прадпрыемстваў і арганізацый Мінскага аддзялення Беларускай чыгункі.**

У складзе дружын 35 работнікаў прадпрыемстваў і арганізацый аддзялення дарогі. На тэрыторыі абслугоўвання Маладзечанскага АУСТ дзейнічаюць пяць саветаў прафілактыкі ў працоўных калектывах.

Дабравольныя дружыны ўдзельнічаюць у ахове правапарадку, дапамагаюць міліцыянерам праводзіць рэйдавыя мерапрыемствы..

Іх мэта – забяспечваць грамадскі парадак, асабістую і маёмасную бяспеку грамадзян, папярэджваць правапарушэнні, што перашкаджаюць руху цягнікоў. Яшчэ яны клапоцяцца пра пажарную бяспеку, ахоўваюць навакольнае асяроддзе.

Сябрамі дружыны могуць стаць грамадзяне Беларусі пасля 18 год, дзелавыя і маральныя якасці якіх, стан здароўя дазваляюць удзельнічаць у ахове правапарадку.

**Сяргей ВАСІЛЕЎСКІ, інспектар прапаганды Маладзечанскага АУСТ.**



Фота Наталлі ТУР.

Сёння ў калектыве мажарэтак займаюцца выкладчыцы музычнай школы: Вікторыя Крук, Дар'я Баравік, Наталля Хамко, Алена Бойка, Ілона Саўлавец, Кацярына Грачанік і Вікторыя Хіхель (справа налева).

# Чым прыгажэйшыя дзяўчаты-мажарэткі, тым лепей

МАЛАДЗЕЧНА

**– Наташа, куды пайшла? – Я не помню, куды іду! – так дзяўчаты з калектыву мажарэтак рэпеціруюць свой першы выхад з духавым аркестрам Маладзечанскай дзіцячай школы мастацтваў, які адбудзецца 9 красавіка.**

Сёння ў калектыве задзейнічаныя восем дзяўчат. І ўсе яны – выкладчыцы музычнай школы.

Кіруе мажарэткамі харэограф **Яўген Завадскі.**

– Шчыра прызнацца, для мяне гэта новы досвед, – расказвае Яўген. – Мажарэткі – гэта не толькі харэаграфія. Яны, як вы ведаеце, суправаджаюць духавы аркестр. А вось як зрабіць так, каб яны былі не толькі цэнем аркестра, а дзяўчатамі, ад якіх захоплівае дух, гэта, мабыць, і ёсць самая складаная задача.

Заняткі праходзяць два разы на тыдзень, доўжацца яны паўтары гадзіны.

– Мне пашанцавала ў тым, што ўсе дзяўчаты з музычным слыхам, таму ім не трэба расказваць, што такое трымаць рытм. Але складанасці, вядома, ёсць.

Мажарэткі выступаюць з жэзламі, іх яшчэ называюць мажорамі. А маршыраваць з пабочнымі прадметамі, канешне, больш складана. У маладзечанскіх мажарэтак пакуль няма ні жэзлаў, ні касцюмаў. Яны ў стадыі стварэння.

– Мы пакуль адпрацоўваем музычны нумар на тры хвіліны. А ёсць жа і такія, якія доўжацца па 10 хвілін. Гэта калі аркестр выконвае папуры.

Яўген прызнаецца, што ў сваёй працы не давераеролікам з інтэрнэту.

**– Мне больш цікава прыдумаць нешта самому, таму мае мажарэткі, хочацца верыць, будуць у чымсьці ўнікальнымі і не падобнымі да іншых.**

Цяперашняя група мажарэтак – эксперыментальная. У Маладзечне нічога падобнага раней не было. Калі эксперымент атрымаецца, то з новага навучальнага года ў групу будуць набіраць дзяўчат. Асноўныя патрабаванні да кандыдатак у мажарэткі – рост ад 160 сантыметраў і прывабная знешнасць.



Фота Наталлі ТУР.

Кіруе аркестрам мажарэтак харэограф Яўген Завадскі.

– Хаця аркестр і галоўны, але дзяўчаты павінны быць такімі прыгожымі, каб ад іх не адвесці вачэй было, – лічыць Яўген Завадскі.

Рэпетыцыя пачынаецца ў 19:30.

– Для нас гэта разгрузка пасля цяжкага працоўнага дня, замена фітнесу, – кажуць дзяўчаты-удзельніцы калектыву. – Гэта адна рэпетыцыя, а другая пачынаецца ў восем раніцы. Тады гэта зарад на ўвесь працоўны дзень. Адным словам, заняткі ідуць толькі на карысць, як не круці.

**Наталля ТУР.**

**Даведка “РГ”: Мажарэткі** – памочніцы тамбурмажора, галоўнага бубнача. Дзяўчаты ў ваеннай або падобнай форме, удзельніцы парадаў. Найбольш часта гэта дзяўчаты ў кароткіх спадніцах, у касцюме, які нагадвае ваенную форму з галунамі і ўпрыгожваннямі (даламанамі), у боціках. Мажарэткі носяць на галаве ківер са страусавымі пёрамі, у руках жэзлы або барабаны. Яны звычайна ідуць з ваенным аркестрам і адбіваюць рытм.

# Ад дзеда – унуку: старыя рэчы ў сучаснай спальні




**Пераехаўшы ў 2012 годзе, мы не мелі вялікіх грошай на рамонт. Таму вырашылі ўключыць крэатыў. Ідэя для спальні паўстала, калі ўмацоўвалі старое акно на кухні.**

Муж сказаў, чорныя металічныя вугалкі можна было б пакінуць без фарбы. Так мы і зрабілі ў спальні. Атрымалася нештачка ў стылі, які часам называюць "кантры-лофт". Натхняліся майстэрняй майго дзеда на Брэстчыне:

Я фатаграфавала спальню цягам усяго 2015 года, таму могуць быць адрозненні ў дэталях. Частыя змены – частка задумы: тут няма нічога трывалага, пакой можна лёгка і хутка перарабіць пад новыя патрэбы або проста пад настрой. За тры гады выгляд мяняўся чатыры разы. Першы год у пакоі не было нічога, апроч новага матраца, які ляжаў на падлозе. На спінах не ашчаджалі – набылі беспружынны матрац 200х160 маркі "Кондар", праз год – аснову пад матрац "Вегас".

Пакой у 11 квадратаў мае амаль квадратную форму. Сцены паклеілі шпалерамі з фактурай лёну і пафарбавалі белай фарбай Caparolsamtex, каб стварыць светлы фон для цёмнай мэблі. Вокны пафарбавалі акрылавай фарбай CaparolPu-Satin з колерам "куркума". Акрыл – экалагічна, але непрактычна: за зіму ўнутраная рама крыху аблазіць, штогод перад Вялікднем падфарбоўваю яе.

Палічкі над ложкам таксама куплялі ў Вільні, у краме Jysk, хоць, канешне, усе яны адной "ікеяй" мазаныя. Лямпы з "Ікеі"; хоць маем верхняе святло, увечары ўключаем толькі іх або начнік. Узгалоўе зімправізавала з абрэзку ДСП і штораў, гэта часовае рашэнне, калі будзе натхненне, яго лёгка перарабіць (планую ў адным стылі з дзвярыма). Мацаванні ўзгалоўя і драты ад лямпаў спецыяльна пакінутыя вонкі для падтрымання стылю. Пад ложкам 4-балонавыя куфры ад "Ікеі", дзе мы захоўваем абутак і іншыя рэчы.

Шторы на вокнах – з "Ікеі", фіранка пашытая з нямецкай тканіны, куплянай у Вільні. Зрэшты, галоўнае ўпрыгожанне акна – за ім. Тут вельмі добра ўлетку.

Грандыёзную савецкую батарэю пафарбавалі серабранкай Alpina, куды намяшалі чорнага колеру ад "Снежкі", каб металічны бляск быў цямнейшым.

У якасці вазонаў для кветак на падлозе выкарыстоўваем выварку, якую купілі ў гаспадарчай краме, і гаршчок, які знайшла ў майстэрні дзеда. У апошнія гады дзядзька варыў у ім тасол. Карціна – з "Ікеі", па-моднаму стаіць на падлозе, закрывае ніжнія разеткі. Усяго ў пакоі 20 разетак – па 4 па кутах і па 2 зверху. Такім чынам, куды ні пастаў мэблю, ёсць куды ўключыць таршэр або кампутар. Праводку разводзілі самі пад кіраўніцтвам майго бацькі.

У пакоі пераважна натуральныя матэрыялы. Коўдра і аўчынка на падлогу са Львова – падарунак бацькоў на вяселле.

Паркет падчас пераезду быў у прымальным стане, усё адно хацелі пацыкляваць, але не ўдалося. Бо мы спачатку зрабілі столь і сцены, а потым патэлефанавалі майстрам.

**Нам сказалі, падлога падчас рамонту робіцца ў першую чаргу – інакш пілавінне шкодзіць свежую фарбу. Добрая навука на будучыню.**

Тумбачка – савецкая, спадчына мужа, калісьці была пафарбаваная ягонай маці ў цямнейшы колер марылкай, на ёй – таксама спадчынны савецкі начнік "Агні Масквы". Увечары, калі запаліш яго, робіцца вельмі ўтульна.

Замест другой тумбачкі ўвосень ў пакоі стаяў стол. Яго мы прывезлі з вёскі, пафарбавалі "куркумай" і крыху дарабілі, бо ў стале бракавала шуфлядкі. Цяпер замест шуфлядкі – фальшпланка, замест ручкі – падарунак ад сяброўкі, бранзалет, які не атрымліваецца насіць, але прыемна разглядаць штодня. У стол можна складваць рэчы, бо ён падшыты перфараванай плітой (такой звычайна закрываюць батарэі). Туды я складаю паперы, з якімі працую, касметыку. Можна ставіць кампутар, ён не будзе перагравацца – спецыяльна для гэтага – перфарацыя. Крэсла – таксама з вёскі, перацягнутае кавалкам старой капы.

Ад вітальні пакой адгароджаны дзвюма ўбудаванымі шафамі, паміж якімі – дзверы. Адна шафа адкрываецца ў спальню, другая – у вітальню, а ў пакой глядзіць яе сценка з ДСП. Многія жыхары дома прыбіраюць гэту шафу і ставяць купэ з новага ДСП, але мы вырашылі не мяняць шыла на мыла і абнавілі гэтую. Хацелі абклеіць яе таксама шпалерамі, але калі зашпаклявалі, пабачылі, што атрымалася цікавая паверхня – так і пакінулі. Замовілі распіл і ў шафе змайстравалі 5 трывалых паліцаў з ДСП, вопратка захоўваецца там у пластыкавых кашах. Дзверы знялі, каб ашчадзіць месца ў пакоі, павесілі карніз і штору з "Ікеі". На фота фіранка, можа, не выглядае надта эфектыўна, бо не блішчыць, але ў жыцці яна пасуе спальні, бо натуральная. У пакоі працуе мыйка паветра Venta – набылі ў Нямеччыне. Добрая штука – рэкамендуем. Савецкія шырокія дзверы замянілі на мэблевыя двухстворкавыя, якія па індывідуальным праекце зрабілі нам з МДФ на адным мінскім прадпрыемстве. Дзверы спатрэбіліся тэрмінова, пакуль заляпіла іх па-хуткаму цыратай-самаклейкай, але аднойчы тут з'явіцца цікавейшае афармленне. На жаль, шырыня пакоя не дазваляе зняць шафу ад падлогі да столі:

Упрыгожылі антрэсолі дзедавай пілой і фота з вёскі, на суцэльную сцяну павесілі кручкі, якія знайшлі ў кватэры. Нацюрмортік справа, як можна здагадацца, дзірку ў сцяне закрывае.

Столь пафарбавалі "Снежкай", папярэдне зарабіўшы доўгія шчыліны-канаўкі. За некалькі год пліты ссунуліся, і цяпер на столі горб. Аказваецца, гэтыя канаўкі – сутык плітаў, а яны рухаюцца цягам года ў залежнасці ад тэмпературы, і лепш было не чапаць іх. Таксама добрая навука.

Летась узімку мы зрабілі рэдызайн. Купілі новую капу. Гэта "Аршанскі лён". Шкада, у іх няма капаў вялізных памераў, таму гэтую пакуль засцілаю ўпоперак. Планую яшчэ купіць вузкую капу, каб было чым закрываць падушкі.

Але галоўнае, канешне, на фота злева. Працоўны стол ператварыўся ў спавівальны і перавандраваў да шафы, а на яго месца стаў ложак, зроблены каля 40 гадоў таму на караблебудаўнічым заводзе ў Ленінградзе. Такім чынам, у слана з'явіўся сябар, а праз пару гадоў пакой чакае яшчэ адзін рамонт, гэтым разам глабальнейшы. Будзем трымаць вас у курсе.

Натхнення!

**Марыя з Мінска.**
**Больш фота на сайце**



Спальня Марыі пасля зімовага рэдызайну.

### Прыкладныя кошты рамонту ў доларах:

400 – праца майстроў над акном, столлю, шафай, сценамі
100 – усе фарбы
160 – увесь тэкстыль, лямпы, рамкі, балонавыя куфры пад ложкам, выварка-вазон
500 – матрац
100 – аснова пад матрац
40 – праводка і разеткі

**Усяго 1300 даляраў.**

### Як паўдзельнічаць у конкурсе

На конкурс "Рэгіянальнай газеты" "Раскажы пра свой рамонт" ужо даслалі тры гісторыі. Марыя з Маладзечна, Марыя з Мінска і настаўніца ільянскай школы Аксана Ярашонак і Таццяна Максімовіч.

Па просьбах нашых чытачоў мы працягваем конкурс яшчэ на тыдзень, да 17 сакавіка. Галасаванне за найлепшую гісторыю пра рамонт адбудзецца на нашым сайце 18 сакавіка.

Да конкурсу прымаюцца гісторыі пра тое, як вы зрабілі рамонт хаця б аднаго пакоя з фотаздымкам выніку. Пажадана дадаць фота да рамонту.

Падлічыце, колькі каштавалі матэрыялы, у колькі абышоўся рамонт, як выбіралі дызайн. Наколькі вынік адрозніваецца ад задумы? Ці здаўжылі вы памылкі, якія дапусцілі ў час рамонту? Што б вы перарабілі?

Вы не толькі дапаможаце з рамонтам іншым чытачам, але і атрымаеце шанец выйграць прыз.

Дасылайце гісторыі, напісаныя ў аб'ёме не большым за 3,5 тысячы знакаў, разам з каштарысам і фотаздымкамі на адрас regionnews@rh.by. Пазначце свой нумар тэлефона.

Вашы гісторыі будуць апублікаваныя на сайце rh.by і ў "Рэгіянальнай газеце". Пасля на сайце мы размесцім галасаванне, якое і вызначыць пераможцу.

Калі ў вас ёсць дадатковыя пытанні, тэлефануйце: **(8 0176) 76-96-67**.

#### Якія падарункі атрымае пераможца

Прызы пераможцам прапануюць спонсары конкурсу "Раскажы пра свой рамонт".

**ІП Алег Валянцінавіч Шульжыцкі** дае сертыфікат на скідку 500 тысяч рублёў на любы тавар катэгорыі "Мэбля" ў студыі мэблі "Інтэк".

**ІП Таццяна Леанідаўна Бойка** прапанавала сертыфікат на скідку 500 000 рублёў на спадарожнікавую антэну.

**ТАА "Саюра"** дае сертыфікат на скідку на вокны ПВХ. На пакупку аднаго акна скідка складзе 250 000 рублёў. На пакупку двух акон скідка складзе 450 000 рублёў. На пакупку ад трох акон скідка складзе 600 000 рублёў.

Усе сертыфікаты дзейнічаюць да 1 ліпеня.

ФУТБОЛ

## “Смаргонь” зноў саступіла 1: 2

СМАРГОНЬ

У чарговым таварыскім матчы 12 сакавіка ФК “Смаргонь” дома прымаў дубль сталічнага “Дынама”. Як і ў мінулай гульні супраць “Ашмян”, смаргонцы прайгралі з лікам 1:2.

З-за траўмаў не прынялі ўдзел у матчы **Сяргей Крот** і **Максім Яблонскі**.

Ад першых хвілін матча абедзве каманды пачалі дэманстраваць атакуючы футбол. Але першымі вызначыліся мінчане – на 19 хвіліне.

– Памыліўся галкіпер “Смаргоні” **Дзмітры Лапко.** Ён адбіў мяч прама на **Мікіту Гурэнку**, які з метраў дзевяці патрапіў у вароты “Смаргоні”, – паведаміў прэс-аташэ “Смаргоні” **Уладзімір Амбрасевіч**. – На 38-й хвіліне нашы футбалісты аднавілі раўнавагу. **Віталь Ганіч** выканаў вуглавы, **Раман Пікуль** скочыў вышэй абаронцаў мінчан і галавой адправіў мяч у сетку варот.

У пачатку другой паловы матча госці зноў выйшлі наперад: **Глеб Расадкін** скарыстаўся няўзгодненасцю дзеянняў варатара і абаронцы смаргонцаў.

Пасля прапушчанага гола ў футбалістаў “Смаргоні” было некалькі момантаў для таго, каб зраўняць лік у матчы, але гульцы атакуючай лініі “чырвона-чорных” іх не выкарысталі, дадаў Уладзімір Амбрасевіч.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**



Фота Уладзіміра АМБРАСЕВІЧА.

”Смаргонь” хоць і забіла гол, але прайграла 1:2.

НАВІНЫ

## Яшчэ адна медаль ашмянцаў

АШМЯНЫ

У мінулым нумары паведамлялі пра паспяховае выступленне трох юных ашмянцаў на чэмпіянаце Еўропы па класічным паўэрліфтынгу ў эстонскім Тарту.

На той момант заставалася на чэмпіянаце выступіць яшчэ аднаму ашмянцу – **Аляксандру Вараб’ёву**. Ён 10 сакавіка заняў другое месца ў адным з практыкаванняў – жыме штангі лежачы. Па суме трохбор’я быў шостым.

Аляксандр выступаў у дывізіёне OPEN MEN у вагавай катэгорыі да 74 кілаграмаў.

## Камандам з рэгіёна залічылі тэхнічныя паражэнні

СМАРГОНЬ, АШМЯНЫ, АСТРАВЕЦ

У вышэйшай лізе чэмпіянату Гродзенскай вобласці па міні-футболе “Вілія” са Смаргоні залічылі тэхнічнае паражэнне 0:5 за няяўку на матч з лідарам, “Энергіяй” з Зэльвы.

У “Ашмян” таксама тэхнічнае паражэнне 0:5 – ад ФСК “Гродзенскі”.

За тур да заканчэння чэмпіянату каманды з рэгёна – у канцы турнірнай табліцы: “Вілія” апусцілася на пятае месца, “Ашмяны” на апошнім, шостым, месцы.

У спісе бамбардзіраў **Захар Захарэвіч** з “Віліі” на чацвертым месцы. Ён забіў 22 галы.

## Вырвалі перамогу за 40 секундаў да канца матча

МЯДЗЕЛ

Матчы восьмага тура чэмпіянату раёна па міні-футболе пачаліся 9 сакавіка.

Драматычнай выдалася канцоўка гульні паміж камандамі райвыканкама і “ІП Мядзел”.

– У другім тайме “ІП Мядзел” зраўняў лік 3:3. Заставалася 40 секундаў да канца матча, і гулец каманды райвыканкама забівае гол. У выніку 4:3 на іх карысць, – расказаў інструктар фізкультурна-аздараўленчага цэнтра **Кірыл Сенеў.**

Камандзе аддзела адукацыі, спорту і турызму залічылі тэхнічнае паражэнне 0:5 ад “Зубраняці”. “Зубраня” – адзіная каманда, якая выйграла ўсе свае матчы.

“Спадарожнік” 11 сакавіка перайграў каманду Крывіцкага спецПТВ №3 закрытага тыпу 7:1 , ”Юніян Нарач” прайграў “Сілавіку” 3:7.

У апошнім туры вызначацца ўсе каманды, якія далей разыграюць медалі.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

# На міжнародным фестывалі па мінібаскетболе перамаглі дзяўчынкі са Смаргоні

СМАРГОНЬ

**Ад 11 да 13 сакавіка ў фізкультурна-аздараўленчым комплексе “Юнацтва” праходзіў міжнародны фестываль па міні-баскетболе сярод дзяўчынак 2006-2007 гадоў нараджэння.**



Фота Уладзіміра АМБРАСЕВІЧА.

Момант турніру.

Турнір арганізаваны смаргонскай СДЮШАР пад эгідай Еўрапейскай дзіцячай баскетбольнай лігі (EYBL). Фестываль наведаў прэзідэнт EYBL **Іга Зандэрс**.

Удзел у фестывалі прынялі чатыры каманды: дзве са Смаргоні, мінскі СДЮШАР-Гарызонт і маскоўскае вучылішча Алімпійскага рэзерву імя Гомельскага.

Прагама фестывалю складалася са спаборніцтваў па фізічнай і тэхнічнай падрыхтоўцы, конкурсу штрафных кідкоў, гульні “два мячы” і турніру. У ім усе чатыры каманды згулялі адна з адной. Пераможцай турніру стала каманда Смаргонь-1. На другім месцы фінішавалі юныя баскетбалісткі мінскага СДЮШАР-Гарызонта, на трэцім – дзяўчынкі з Масквы.

У абодвух конкурсах перамаглі смаргонскія спартсменкі. Конкурс штрафных кідкоў выйграла **Ульяна Караваева**, а конкурс “два мячы” – **Валерыя Лукашэвіч**.

Па выніках праграмы фестывалю ў агульным заліку першыя два месцы занялі каманды Смаргонь-1 і Смаргонь-2. Трэцяе месца дасталася мінчанам, а чацвертае – у гасцей са сталіцы Расіі.

На ўрачыстым закрыцці фестывалю пераможцаў і прызёраў фестывалю ўзнагародзілі кубкамі, медалямі і граматамі. А яшчэ арганізатары падарылі ўсім удзельнікам памятныя сувеніры і салодкія падарункі.

Іга Зандэрс уручыў ўсім удзельніцам падарункі ад лігі і адзначыў спецыяльным прызам дырэктара Смаргонскай СДЮШАР **Валерыя Юрчанку** за выдатную арганізацыю фестывалю.

**Уладзімір АМБРАСЕВІЧ,**
**Смаргонь.**

## Праходзіць турнір па міні-футболе

МАЛАДЗЕЧНА

**У апошнія лютаўскія дні ў Маладзечне адбыўся першы тур веснавога турніру па міні-футболе сярод мікраraёнаў горада.**



Фота vk.com

Каманда “ІВА-2014”, пераможца другога тура турніру.

А ў сакавіцкія дні праходзяць 2, 3 і 4 туры.

У турніры на прызы фізкультурна-спартыўнага клуба “Агеньчык” удзельнічалі сем камандаў. Гэта каманды “Крыніца”, “ФСЦДіМ”, “Сярэдняя школа №14”, ЛСК “Іва-Вікторыя”, ЛФК OldSchool, ЛСК “ІВА-2014”, ЛСК “ІВА-2010”.

Усе матчы праходзілі на спартыўнай базе сярэдняй школы №14.

Пераможцамі першага тура сталі каманды “Сярэдняя школа №14”. Яны выйгралі ў каманды “ФСЦДіМ” з лікам 12:5. Каманда “ІВА-2014” стала мацнейшай за “Крыніцу” (5:3). А “ІВА-2010” атрымала перамогу над камандай “ІВА-Вікторыя” (6:4).

Пераможцамі другога тура, які адбыўся 6 сакавіка, сталі каманды OldSchool. Яны перамаглі з лікам 6:1 каманду “ФСЦДіМ”.

“Крыніца” абыграла каманду “Сярэдняя школа №14” з лікам 7:4, а каманда “ІВА-2014” аказалася мацнейшай за “ІВУ-2010”. Лік іх сустрэчы – 9:6.

Трэці тур адбыўся 13 сакавіка. У гэтым туры “Крыніца” абыграла “ФСЦДіМ” з лікам 18:3. “ІВА-Вікторыя” абыграла каманду OldSchool з лікам 9:2, а “ІВА-2010” перамагла каманду “Сярэдняя школа №14” з лікам 9:7.

Гульні пятага і шостага тураў адбудуцца ў нядзелю, 20 сакавіка.

Пачатак першага матча ў 16:35.

**Наталля ТУР.**

**У Маладзечне ў адным з двароў не хапае асфальтаванай пляцоўкі для аўтамабіляў**

Паважаны Пятровіч! Сфатаграфуйце двары дамоў 60-62-64 па Гасцінцы. Праблема даўно набалела, але вырашаць яе ніхто і не збіраецца. Машын шмат, а паркоўкі няма зусім, праездзікі ўздоўж дамоў вузенькія, часта машынам бакі абдзіраюць. Затое нейкі невядомы дом у квадраце 100 на 100 метраў сабраліся будаваць. Не горад, а цырк. ***Аляксандр***.

**"Раскажы пра свой рамонт": Мая спальня віннага колеру**

Цудоўны праект, але чаму так мала часу для конкурсу? ***Віялета***.

**"Аказваецца, мы нядрэнна жывём!" Чаму беларусы часта не давяраюць статыстыцы па зарплатах?**

Мда, роўненька ўдвая меней, чым я атрымаў у студзені. ***Sh@m@n***.

**Пагуляем у Шэрлака? Раскрыем, а ці было забойства?**

На маю думку, гэта забойства, так як ахвяра ляўшун, а зброя ў правай руцэ. ***Ганна***.

**Фотаздымак ашмянскіх школьнікаў за месяц абляцеў усе кантыненты свету**

Малайцы, хлопцы! Выдатна прыдумалі. ) ***Таня***.

● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ МЯДЗЕЛА



**У Мядзеле 13 сакавіка прайшла Масленіца. Бліны можна было не толькі купіць, але і пакаштаваць бясплатна. За ўпадабаныя галасавалі. Перамаглі бліны ад "бабулі Любы" – Любові Тарасевіч.**
**Фота Алеся ВЫСОЦКАГА.**

● ТЭАТРЫ

# Мінскі абласны драматычны тэатр

*РАНІШНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**"Парася, якое спявае"** (музычная казка-жарт у 2-х дзеях), *Сяргей Казлоў*
23 сакавіка – у 12:00

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

**УВАГА! ГЛЕДАЧЫ БУДУЦЬ СВЕДКАМІ ЮБІЛЕЮ – 10-ГОДДЗЯ СЦЭНІЧНАГА ЖЫЦЦЯ СПЕКТАКЛЯ**
**"Шукаю сапраўднага мужчыну"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Алена Папова*
18 сакавіка – у 19:00



Тэатр мае права на замену спектакляў

***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***

Тэл. для даведак:
**75-24-17** (каса),
**75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by,
http://theatre-modt.by/.



# Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

**"Маша і мядзведзь"** (народная казка на беларускай мове), *В.Швэмбергер*, бел.
20 сакавіка – у 12:00

**"Канёк-гарбунок"** (чарадзейная казкана рускай мове), *П.Яршоў*
27 сакавіка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе:
***Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в.***
Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**



● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 1 | | 5 | | | | | 9 |
| | | | | 1 | | | | 3 |
| 9 | | 3 | 8 | | | | 6 | |
| 1 | | | | | | 3 | 7 | |
| 8 | | | 3 | | 6 | | | 1 |
| | 6 | 9 | | | | | | 4 |
| | 8 | | | | 4 | 9 | | 7 |
| 5 | | | | 8 | | | | |
| 4 | | | | | 1 | | 3 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3х3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● КІНО

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Прэм'ера! Мультфільм, прыгоды, камедыя **"Смяшарыкі. Легенда аб залатым драконе"** (3D, Расія, 2016, без узроставых абмежаванняў)
19 сакавіка – у 13:00
20, 21, 23 сакавіка – у 14:30
22 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя, сямейны **"СуперБабровы"** (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18, 19 сакавіка – у 17:20
20 сакавіка – у 16:30
21, 23 сакавіка – у 16:30
22 сакавіка – у 16:20
24 сакавіка – у 19:00
Цана: 20 000 – 25 000 рублёў

Мультфільм, баявік, камедыя **"Зверапаліс"** (3D, ЗША, 2016, без узроставых абмежаванняў)
19 сакавіка – у 15:00
20, 23 сакавіка – у 18:40
22 сакавіка – у 14:00
Цана: 30 000 – 50 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды **"Кракнутыя канікулы"** (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
21 сакавіка – у 10:30
Цана білета: 15 000 рублёў

Фантастыка, баявік, прыгоды **"Дывергент, глава 3: За сцяной"** (ЗША, 2016, пасля 16 год)
18 сакавіка – у 22:00
19 сакавіка – у 19:30
21 сакавіка – у 21:10
22 сакавіка – у 18:30
Цана: 45 000 – 50 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал **"Падзенне Лондана"** (ЗША, Вялікабрытанія, 2016, пасля 16 год)
18 сакавіка – у 19:30
19 сакавіка – у 22:00
20, 22, 23 сакавіка – у 21:00
21 сакавіка – у 18:40
Цана: 45 000 – 50 000 рублёў

Прэм'ера! Мультфільм, камедыя, сямейны **"Вавёркі ў справе"** (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
24 сакавіка – у 14:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Прэм'ера! Фэнтэзі, баявік, прыгоды **"Бэтман супраць Супермэна: На досвітку справядлівасці"** (3D, ЗША, 2016, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
24 сакавіка – у 16:00, 21:10
Цана: 50 000 – 60 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Камедыя **"Рабінзон і дзевяць Пятніц"** (Грузія, Азербайджан, 2015, пасля 16 год)
18, 20 сакавіка – у 17:40
23 сакавіка – у 17:30
24 сакавіка – у 17:00
Цана білета: 40 000 рублёў

Прэм'ера! Драма, крымінал **"Бабу"** (Беларусь, Азербайджан, 2013, без узроставых абмежаванняў)
22 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Мультфільм, камедыя, прыгоды **"Кракнутыя канікулы"** (3D, Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
23 сакавіка – у 15:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, сямейны **"СуперБабровы"** (Расія, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18 сакавіка – у 19:00
19 сакавіка – у 14:00, 21:00
20 сакавіка – у 13:00
21 сакавіка – у 19:30
22 сакавіка – у 21:30
24 сакавіка – у 15:00
Цана: 25 000 – 30 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя **"Кунг Фу Панда 3"** (3D, ЗША, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
21 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер **"Дэдпул"** (ЗША, Канада, 2015, пасля 18 год)
23 сакавіка – у 21:30
Цана білета: 50 000 рублёў

Фантастыка, баявік, прыгоды **"Дывергент, глава 3: За сцяной"** (ЗША, 2016, пасля 16 год)
19 сакавіка – у 16:00
20 сакавіка – у 15:10, 21:40
21 сакавіка – у 17:00
22 сакавіка – у 16:50
23 сакавіка – у 19:00
Цана: 40 000 – 50 000 рублёў

Баявік, трылер, крымінал **"Падзенне Лондана"** (ЗША, Вялікабрытанія, 2016, пасля 16 год)
18 сакавіка – у 21:10
19 сакавіка – у 18:30
20 сакавіка – у 19:10
21, 24 сакавіка – у 21:30
22 сакавіка – у 19:00
Цана білета: 50 000 рублёў

Фэнтэзі, баявік, прыгоды **"Бэтман супраць Супермэна: На досвітку справядлівасці"**
24 сакавіка – у 18:30
Цана білета: 65 000 рублёў

Тэлефон: (80176) **77-15-92, 77-06-30**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Мультфільм, баявік, камедыя **"Зверапаліс"** (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
18 сакавіка – у 18:00
19 сакавіка – у 17:00
20 сакавіка – у 18:50
Цана білета: 50 000 рублёў
19 сакавіка – у 13:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Камедыя, сямейны **"СуперБабровы"** (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18 сакавіка – у 20:00
19 сакавіка – у 21:10
20 сакавіка – у 15:00
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, баявік, прыгоды **"Дывергент, глава 3: За сцяной"** (2D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18 сакавіка – у 21:40
19 сакавіка – у 19:00
20 сакавіка – у 16:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Мультфільм, прыгоды, камедыя **"Смяшарыкі. Легенда аб залатым драконе"** (3D, Расія, без узроставых абмежаванняў)
19 сакавіка – у 15:00
20 сакавіка – у 13:30
Цана білета: 20 000 рублёў

Фантастыка, баявік, трылер **"Дэдпул"** (2D, ЗША, Канада, з 18 год)
20 сакавіка – у 20:50
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Жахі **"Пячора"** (Іспанія, з 18 год)
18, 20 сакавіка – у 18:00
19 сакавіка – у 20:40
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя **"Рабінзон і 9 пятніц"** (Грузія, Азербайджан, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
18 сакавіка – у 19:20
19 сакавіка – у 17:30
20 сакавіка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Камедыя **"Вясёлыя рабяты"** (Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
18, 20 сакавіка – у 21:00
19 сакавіка – у 19:10
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **"Маша і мядзведзь. Заблытаныя гісторыі"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
19 сакавіка – у 14:00
20 сакавіка – у 13:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Анімацыя **"Песня мора"** (Ірландыя, без узроставых абмежаванняў)
19 сакавіка – у 15:00
20 сакавіка – у 14:30
Цана білета: 12 000 рублёў

Тэлефон для даведак: (801771) **5-68-59**

● ГАРАСКОП
18-24 САКАВІКА

**Авен.** Надышоў час рухацца наперад, да новага і цікавага. Не бойцеся пераменаў ці вяртання да мінулага. Цяпер самы час для прымірэння ці ўзнаўлення адносінаў.

**Цялец.** Зоркі абяцаюць шмат кантактаў і паездак. Прыйдзецца разлічваць толькі на ўласныя сілы. Цяпер займіцеся тымі справамі, якія доўгі час адкладвалі. Самым цяжкім у эмацыйным плане можа аказацца нядзельны вечар.

**Блізняты.** Самы час складаць сумесныя планы на будучае. Плануйце адпачынак, усё атрымаецца.

**Рак.** Пагоня за сіняй птушкай удачы, нарэшце, увянчаецца поспехам, што дазволіць вам паверыць у свае магчымасці. Аўтарытэт ваш на высокім узроўні, навакольныя будуць прыслухоўвацца да вашага меркавання. Але не зазнавайцеся.

**Леў.** Вам прыйдзецца разлічваць на свае сілы і ўменне хутка мяняць свае планы.

**Дзева.** Ужо з панядзелка пачніце рэалізоўваць свае планы, інакш можаце ўпусціць спрыяльны перыяд для іх далейшага развіцця. І ўдзяліце хоць трохі ўвагі свайму дому, там даўно пара навесці парадак.

**Шалі.** Цаніце і паважайце сваю працу, дэманстрацыя самакрытычнасці прывядзе толькі да таго, што вам сядуць на шыю, даўшы зразумець, што вы дрэнна спраўляецеся са сваімі абавязкамі.

**Скарпіён.** Будзьце разважлівыя, менш гаварыце і будзьце гатовыя захоўваць тайны. На рабоце вас цэняць і гатовыя добра плаціць за вашы ідэі і таленты. І разбярыцеся з праблемамі мінулага.

**Стралец.** Вы творца свайго шчасця, не ўпусціце гэты залаты час. Вы зможаце аказацца на грабяні хвалі, калі таго шчыра пажадаеце. Пастаўце сабе канкрэтную мэту і імкніцеся да яе дасягнення.

**Казярог.** Знайдзіце час і правядзіце вечар з каханым чалавекам, каб у вас не з'явіліся прычыны для рэўнасці.

**Вадалей.** Вы можаце стаць заметнай фігурай на рабоце. Вашы навыкі і досвед будуць карысныя калегам, вы лёгка заваюеце павагу начальства. Але прыйдзецца шмат працаваць у розных галінах, каб стаць незаменным супрацоўнікам. Ну, а асабістыя справы прыйдзецца адсунуць на задні план.

**Рыбы.** Не сядзіце склаўшы рукі, вы можаце многага дабіцца.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155

# Рэгіянальная газета. Rh.by

тэлетыдзень

НАЙЛЕПШАЯ РЭГІЯНАЛЬНАЯ ГАЗЕТА ГОДА 2015

## НАДВОР'Е

19 сакавіка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +3 / +1 | | -5 / -2 | | -1 / -1 | | -4 / 0 | |
| | 729 | ↓ 8 | 737 | ↘ 6 | 733 | ↙ 2 | 732 | ↘ 2 |
| Вільня | 0 / 0 | | -5 / -2 | | -3 / -2 | | -3 / -1 | |
| | 741 | ↓ 9 | 747 | ↘ 6 | 742 | ↓ 2 | 742 | ↘ 3 |

Тэмпература паветра | Воблачнасць ападкі | Ціск (мм рт. сл.) | Хуткасць ветра м/с | Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.14
Захад 19.25
Даўжыня дня 12.11

Усход 19.25
Захад 5.33
Квадра 2




## ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**НАРАЧ (КУПА)**

Мінімальная тэмпература -20,7 °C у 1979 годзе
Максімальная тэмпература +18,5 °C у 1990 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 14,1 мм у 2001 годзе
Паводле meteoinfo.by

## ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў МАЛАДЗЕЧНЕ

# Як вы ставіцеся да павышэння пенсійнага ўзросту?



**Зінаіда Бурак, пенсіянерка:**
– Я ўжо пенсіянерка, таму задаволеная, што пайшла на пенсію ў 55 гадоў. У мяне ёсць час і няньчыць унука, і падарожнічаць, і ўвогуле проста пажыць для сябе. Таму я супраць павышэння пенсійнага ўзросту – ну, не з палачкай жа з працы сыходзіць.



**Таццяна Махонь, цырульніца:**
– Усе залежыць ад памеру пенсіі. Каб яна была вялікая, то можна ісці і ў 60. Але ў сённяшняй сітуацыі лепей ісці на пенсію раней, пакуль дазваляе здароўе і патрабуецца значна менш сродкаў на яго падтрыманне.



**Ігар Соніч, часова не працуе:**
– Я за павышэнне пенсійнага ўзросту. Так можна зэканоміць шмат грошай дзяржаве. Я з задавальненнем працаваў бы да 65 гадоў.



**Аляксандр Сарока, пенсіянер, працуе:**
– Я дапрацаваў да 60 год, таму вельмі рады, што пайшоў на пенсію. Усё жыццё адпрацаваў на будоўлі. Стаміўся. А калі працаваць на нейкай кіруючай пасадзе, то можна працаваць і да 75, дупа ж не стамляецца на крэсле сядзець.



**Ягор Руткоўскі, навучэнец:**
– Напэўна, не трэба павышаць узрост пенсійны. На пенсіі трэба адпачываць. І чым раней гэта рабіць, тым лепей.



**Ганна Мялюк, пенсіянерка, працуе:**
– А вы лепей спытайцеся, працуюць пенсіянеры ад добрага жыцця ці па прымусе. Я, напрыклад, пенсіянерка і працягваю працаваць. Таму што ў мяне ўнукі. Адна ўнучка хворая, а дачка атрымоўвае дапамогу на яе мільён 300 тысяч рублёў. Я не ведаю, як бы ўвогуле пражыла, калі б толькі працавала або жыла на адну пенсію.



**Дзмітры Лагвінец, навучэнец:**
– Я лічу, што ў любым выпадку павышаць не варта. Калі чалавек адпрацаваў усё жыццё ў офісе – у яго развіваецца маразм, а калі займаўся фізічнай працай, то да 60 год можна ўсё здароўе згубіць.

**Наталля ТУР.**

## Чытайце праз тыдзень:

- Чым маладому маладзечанцу падабаецца прафесія повара і якая страва дапамагла яму стаць прызёрам абласнога конкурсу, чытайце ў наступным нумары.

# Прысвоілі званне "Чалавек года Міншчыны"

**МАЛАДЗЕЧНА, ВІЛЕЙКА**

**Стала вядома, каму прысвоілі ганаровае званне "Чалавек года Міншчыны" за 2015 год.**

У намінацыі "Вытворчая дзейнасць" – **Паўлу Дубягу**, кіроўцу пагрузчыка філіяла дарожнабудаўнічага ўпраўлення №13 ДБТ №5, Вілейка.

Трэнер-выкладчык па боксе дзіцяча-юнацкай спартыўнай школы №1 Маладзечанскага райвыканкама **Сяргей Асанаў** вызначыўся ў намінацыі "Невытворчая сфера".

Ганаровае званне таксама прысвоілі галоўнаму рэдактару "Маладзечанскай газеты" **Аляксандру Лазоўскаму** і вядомай у Маладзечне кампазітарцы выкладчыцы Мінскага дзяржаўнага каледжа мастацтваў **Алене Атрашкевіч**. Іх адзначылі ў намінацыі "Грамадска-палітычная дзейнасць".

Уладальнікам ганаровага звання ўручаецца спецыяльны дыплом, стужка і выплачваецца прэмія – 100 базавых велічынь (21 мільён рублёў).

**Па інфармацыі Мінаблвыканкама.**



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№12 (1090) 18.03.2016. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 251 . Падпісана ў друк у 9.00 17.03.2016.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E-mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.